УДК 82-8
ББК 84Бел
Х 14

**Х 14 Хадарэнка I.**

Танцы на шкле. — Мазыр: РВФ «*Белы вецер*» 1999. — 108 с.

**ISBN 985-447-106-3**

Для кожнага чалавека маладосць — гэта час нястомных пошукаў. фарміравання жыццёвы» прынцыпаў, назапашвання духоўнага патэнцыялу. І таму творчасць Ірыны Хадарэнка — адзін са шматлікіх спосабаў самасцвярджэння і асэнсавання жыцця.

Творы маладой аўтаркі вылучаюцца імпульсіўнасцю і філасафічнасцю. імпрэсімістычнай няўлоўнасцю і мінорным задуменным настроем, які часам мае хваравіта-разгубленае і даволі змрочнае адценне. Для іх характэрна спалучэнне дасягненняў еўрапейскай паэтычнай культуры з вобразнасцю мыслення, інтанацыямі, рытмікай, што бяруць пачатак у багатым нацыянальным фальклоры.

**ISBN 985-447-106-3**

## *Біяграфічная даведка*

Ірына Міхайлаўна Хадарэнка (сапраўднае прозвішча — Шуйская) нарадзілася ў 1976 годзе ў Мінску ў сям'і служачых. Вучылася ў музычнай школе, потым у гімназіі № 1 ім. Ф. Скарыны. Скончыла Беларускі Дзяржаўны Эканамічны Універсітэт. Зараз з'яўляецца аспіранткай Беларускага Універсітэта Культуры. Друкавалася ў рэспубліканскіх часопісах і газетах, а таксама ў "Беларускім дайджэсце" у Амерыцы.

## *У пошуках ісціны*

Цяжка паверыць, што гэта маё,
такое ў жыцці прызначэнне.
Мне страшна параніцца аб вастрыё
і нельга зрабіць выключэнне.

І нельга сысці са шляху пакут
і ў мяккім балоце завязнуць.
Ці голасна крыкнуць: "Усім салют!"
і раптам, як зорка, пагаснуць.

Я ведаю, можна вар'яткаю стаць,
калі не паспець спыніцца.
І будуць каменне ў цябе шпурляць,
ты толькі паспей бараніцца.

Навошта іду я ў цярновы лес
у пошуках ісціны нейкай?
Няўжо не хапае думак-гарэз,
якія гуляюць на рэйках?

Не зразумець мяне, і няхай!
Перажыву нават гэта.
Вось я іду да цябе, сустракай,
Няшчасная доля паэта.

* * *

Не давярайце той істоце,
якую клічуць Чалавекам,
бо за давер і шчырасць можа
ён вам аддзячыць жорсткім здзекам.

Мяне прымалі за вар'ятку,
калі быць шчырай спрабавала,
Што ж, ад людскога асяроддзя
я іншага і не чакала.

Усмешка прамільгне на твары,
а ў сэрцы роспач і сумненні.
І вось я думаю: ці трэба
чакаць мне нейкага змянення?

* * *

Грамадства — гэта сокавыціскалка,
што кожнага імкнецца скарыстаць
па назначэнню, а пасля — на звалку
закінуць і аб тым не ўспамінаць.

Яно, як ненажэрная пачвара,
стараючыся душы паглынуць,
сцірае сведчанні асобы з твараў,
імкненні сэрцаў хоча ў склеп замкнуць.

Замест людзей з'яўляюцца істоты,
жыццё якіх нагадвае мне сон.
Усе яны баяцца адзіноты,
а я табе зайздрошчу, Рабінзон.

## *Легкадумны вершык*

Чамусьці я не васілёк
у залацістым жыце,
не птушка і не матылёк,
не воблака ў блакіце.

А добра як амёбай быць!
Яна пакут не знае.
Душа ад думак не баліць
амёба ж іх не мае.

На жаль, я толькі чалавек
з разумнай галавою.
Я пражыву нядоўгі век
і знікну пад зямлёю.

## *Тост*

Хачу падняць я гэты тост за тое,
што засталося ў нас яшчэ святое:
за адраджэнне мовы і культуры,
мастацтва развіццё, літаратуры.

Каб кожны з нас самім сабой застаўся,
з хлуснёй і горам меней сустракаўся.
Каб справы плённа мы заўжды рабілі
і каб жыццё дарэмна не пражылі.

## ***Ноч нараджэння***

*Ува ўсіх людзей Дзень нараджэння,*
*а ў мяне Ноч.*
Б. Пятровіч

Ноч нараджэння. 22.15.
Самота. Цішыня. Чаканне. Змрок.
Прыйшлі начныя здані павітацца
са мной. Іх ледзь заўважыў зрок.

Яны прыйшлі павіншаваць са святам
і прадказаць мне будучы мой лёс.
Таму ў мяне настрой крыху прыўзняты,
бо кожны прывід мне сюрпрыз прынёс.

Вітаю вас, мае начныя госці!
Я бачу вашы цені на сцяне.
Вы мусіце сказаць мне шэптам штосьці..
Ці добрыя прынеслі звесткі мне?

Здань першая: «Я бачу, што ты хочаш
амаль усё ў жыцці сваім змяніць.
Дык ведай: з сённяшняй дарогі збочыш,
каб у мастацтва дзверы адчыніць».

Другая здань: «Цябе чакае вечнасць,
калі нашчадкі змогуць зразумець
тваю душу. А шлях твой — нябяспечны.
Наўрад ці шчасце ў ім ты будзеш мець».

Здань трэцяя мне кажа як выснову:
«У адзіноце будзеш бавіць час.
Нядоўга пражывеш, але нанова
ты будзеш нараджацца кожны раз».

* * *

Хцівы кактус... Вострыя іголкі...
Кроў на пальцы, слёзы на шчацэ...
Для цябе я знікну гэтым золкам,
цукрам растваруся ў малацэ.

Ты прачнешся, вып'еш капучына,
Усміхнешся, як шаманскі бог.
І без усялякае прычыны
разаб'еш свой кубак аб парог.

* * *

Восень. Вечар. Дождж. Каханне.
Слёзы — кроплямі вады.
У чарговы раз вяртанне
з ніадкуль у нікуды.

Восень. Вечар. Дождж. Самота.
І стары, як свет, сюжэт,
дзе салодкаю гаркотай
упіваецца паэт.

* * *

У душы квітнеюць ружы,
а на вуснах тае снег.
Без цябе я стала дужай,
без цябе спазнала грэх,

Блізкі цень пайшоў далёка,
развітаўшыся з зямлёй.
Ты застаўся адзінокім,
я сам-насам з цішынёй.

* * *

Мая маленькая пачвара!..
Заўсёды будеш ты са мной
губляць сябе ў вар'яцкім вары
і змей вадзіць на вадапой.

На рэштках кволага палаца
мы пабудуем свой вігвам.
Там станем ад людзей хавацца
і давяраცца толькі снам.

## *Вясновы самнабулізм*

...І тая вясна, нібы дзева старая,
нагнала мне ў сэрца самотную зграю
Упарта зімовая коўдра не тае,
і смутку матыў усё грае ды грае...

### ***Закляцце***

На гары — данайскія дары:
з дроту дробна звітыя карункі.
Разатры мяне на алтары
да раз'ятры сонечныя стрункі!
Зоры даравалі ўсё зары,
праігнараваўшы падарункі.
Трушчацца атрутныя пары
і ў дурман ператвараюць думкі...

## *Ланцужковае трызненне*

Тры колеры вазьму: пурпурны, жоўты, чорны
І намалюю ў пространі сябе
У выглядзе маленькага дракона,
Які пазычыў крылы ў птушкі Фенікс.

Той, хто пазычыў крылы ў птушкі Фенікс,
Напэўна ж, ведае стары закон, што сведчыць
Лепш заблукаць у незнаёмым лесе,
Чым сцежкамі стаптанымі хадзіць.

Сцяжынкамі стаптанымі хадзіць
І поўзаць па мярзотнаму балоту —
Такі занятак будзе даспадобы
Тым дурням, што ў люстэрка не глядзяць.

А шкло люстэрка цягне да сябе
Так жорстка, непазбежна і нястрымна,
Што хочацца мне ўсім ахвяраваць
Дзеля ўспрымання звону цішыні,

Шаноўная паненка Цішыня!
Ізноў мяне ты прымушаеш біцца
З пачвараю, што месціцца ўнутры
І моцна прагне зваяваць Сусвет,

Сусвет стварыць і знішчыць можа кожны,
Хто апынецца ў шостым вымярэнні
І намалюе ў пространі карціну
Трохкаляровым спектрам уяўлення.

## *Яблык Евы*

Салодка спіць Адам пад райскім дрэвам —
яго душа не ведае трывог.
Ад спёкі задрамаў і сам пан Бог.
І толькі не да сну чамусьці Еве.

Яе нястрымна цягне да спакусы.
Цікаўнасць асуджае смелы дух,
свядомасць нараджае цела рух,
і яблык набліжаецца да вуснаў...

І вось пан Бог рыхтуе пакаранне.
Але не за парушаны загад,
не за памкненне сцвердзіць новы лад,
а за сляпую прагу да спазнання.

## ***Мадонна з нябыту***

*Мастаку А. Кузьмічу*

У нябеснай жанчыны блакітная кроў
і з валокнаў сінечы сатканае сэрца.
Яна любіць гуляць на руінах муроў
і чакаць, покуль грэх з пакараннем сальецца.

Яе першым каханным быў прывід-вар'ят,
што пакінуў сляды пацалункаў на вуснах.
А прызначаным лёсам стаў баль-маскарад,
залучыўшы мадонну ў палон свой спакусны.

І багіня, і служка ў аблічча адным
у пакутах мелодыю свету ствараe.
Голас Вечнасці ціха спявае аб тым,
што яе таямнічасць зусім не зямная.

## ***Мілэдзі***

*С. Я.*

Яна — фатальная жанчына
і небяспечная гульня.
Зрачэшся маці і айчыны,
спыніўшы перад ёй каня.

Зноў тоне розум у сутонні.
Віно, пасьянс, парфумны пах...
Ляціць у чорнае прадонне
паранены каханнем птах.

«Хутчэй спыніся, рыцар любы!»
крычыць нябачны,вартавы, —
Іначай давядзе да згубы
пагляд мілэдзі ракавы.»

Але той покліч не пачуты.
Трагічным мусіць быць фінал,
бо ад смарагдавай атруты
канае шэры кардынал...

### *Я і ты*

Я плёскалася ў моры дэкадансу
і слотай высцілала берагі.
А ты спяваў пад вокнамі рамансы
і танчыў па-над прорвай ад тугі.

Агонь з вадою маюць падабенства.
З прасторай назаўжды з'яднаны час.
Сусветам авалодала шаленства
і сімвалам сваім зрабіла нас.

Калі ж згарэла зорка залатая,
нанова з д'яблам пасварыўся бог.
І зараз я над безданню спяваю,
а ты з марской вады гатуеш грог.

* * *

*Творчым людзям усіх часоў*
*і народаў прысвячаецца*

Пакласці жыццё на алтар
і кінуць Сусвету пальчатку,
узвесці палац з кволых мар,
сціраючы лесу пячатку,

Душу распасцерці паміж
зямлёй і касмічнай прасторай,
без скаргаў пранесці свой крыж,
узняцца над бруднай разорай,

Усмешку скрозь боль падарыць,
пакуты прыдбаць ад развагі,
бясконца шукаць і тварыць —
ці ж гэта не варта павагі?!

* * *

Калі мне надакучаць ролі,
я проста знікну з гэтай сцэны
і ціха перайду ў суцэльнасць
нірванна-неабсяжнай волі,

Перакуліўшы рэчаіснасць,
змяню фармат уласнай сілы
каб распасцерці ў прастрань крылы
і межы ўяўнасці расціснуць.

## *Трохкутнік*

* * *

Сёння газет не было. У паштовую скрыню
мне падкінулі дохлую мыш.
А жыццё ўсё-ткі цудоўнае!..

* * *

Апошнія грошы ў кішэні.
Пайду і куплю сабе піва.
Як мала патрэбна для шчасця!

* * *

П'яны майстра высокай паэзіі
глядзіць на мяне мутнымі вачыма.
...Так нараджаецца новы шэдэўр.

* * *

Мэбля пасівела ад пылу,
а я сяджу і чытаю Шапенгаўэра.
Усё вялікае патрабуе ахвяр.

* * *

Выдатны дзеяч культуры
бессаромна распранае мяне позіркам
І хто сказаў, што духоўнасць ствараюць
праведнікі?.

* * *

Калі зазіраю ў люстэрка —
сябе там ніяк не знаходжу.
Аднак мае адлюстраванні існуюць
паўсюдна.

* * *

Не трымайце мяне, калі падаю.
Не штурхайце, калі ўзлятаю.
Я сама знайду свой шлях...

* * *

Сёння я лічу каханнем тое,
аб чым учора яшчэ не ведала,
і што заўтра буду імкнуцца забыць.

* * *

Адны сцвярджалі: «Гэта чорнае».
Другія аспрэчвалі: «Гэта белае».
А я маўчала, бо ведала: яно не мае колеру.

* * *

Калі пакіну гэтую рэальнасць
і ў свеце больш ужо мяне не будзе,
то застанецца ўсё ж такі не я.

* * *

Ізноў адна і ў задуменні...
У капялюшы — каб удасканаліць вобраз.
Чарговая гульня ў філасафічнасць.

* * *

Разлукі цень даўно за намі сочыць,
аднак жа на яго я не зважаю
і раствараюся ў цябе амаль дарэшты...

* * *

Цябе гукаць у пространі не стану.
Сам прыйдзеш у наканаваны час
і назавеш мяне дзесятай Музай.

* * *

Прыўзняўшы крылы,зубкі завастрыўшы
я накіруюся ў даліну, дзе чакаюць
мяне сябры — пачварныя анёлы.

* * *

Калі я плачу, то слязьмі плачу
за ўсе грахі мінулыя .
і за адсутнасць слёз у будучым.

* * *

Мінулае жыве ў нашай памяці.
Будучае нараджаецца ва ўяўленні.
У рэчаіснасці ж існуе толькі цяперашняе.

* * *

У гэтым жыцці я вытрываю ўсё,
нават самую апошнюю кроплю.
Але калі яна знікне не стрымаюся, пабягу
шукаць...

## *Спіральныя калізіі*

### **Цыкл вершаў**

* * *

Мне прызначана жыць на мяжы,
быць палітрай шматлікіх абліччаў,
ткаць са слоў габелен таямнічы
і з пачуццяў ствараць вітражы.

На чарговым сваім віражы
я з'яўлюся ў прасторы касмічнай.
Калі Вечнасць вандроўніка кліча,
дык слядоў не змываюць дажджы.

* * *

*З. К.*

Светлыя вочы мае —
марыва даўкіх нябёс,
мроі самотных вятроў,
соль нерастрачаных слёз.

Цёмныя вочы твае —
моц і трываласць зямлі,
магія казачных сноў,
цёплай пяшчоты разліў.

Свет я ствару з цемнаты;
ценем святла станеш ты.

* * *

*Рэжысёру Віталю Катавіцкаму*

Я ўвап'юся ў сусвет Сальвадора Далі,
прагна выгрызу існасць яго таямніцы
і пакрочу па краю нябёс да зямлі.

Хай пачне наваколле ад смеху давіцца!
Буду рухацца ўпоперак слотнай шашы
і разменьваць імпэт на шматкі і драбніцы.

Міражы, вы дазволіце вас раскрышыць?
Я зраблю гэта з мілай і сквапнай усмешкай,
каб спатоліць патрэбу пачварнай душы.

Паміж пеклам і раем ляжыць мая сцежка,
між адчаем і ўзнёсласцю сэрца ляжыць.
На жыццёвай рабрыне арол б'ецца з рэшкай.

Я люблю танчыць вальс на даўжэзным нажы
і, віно ліючы на парваныя раны,
як вядзьмарка, у аспідны час варажыць.

Ад развагаў мой розум зусім сапсаваны.
Ён ніколі спакою сабе не дае.
А ўяўленне, выходзячы на паляванне,
на папернае поле атруту ліе...

## *Летуценні матадора*

*Сяргею Жураўлю*
*з павагай да таленту*

Ператварыцца ў індыкатар,
стаць фільтрам часу і падзей,
лавіць свядомасцю імгненні,
як сетка ловіць матылькоў,

для размнажэння скразнякоў
пасеяць россыпам сумненні
на глебе векавых надзей
і слухаць спевы праз лакатар...

Падобных рэчаў я аматар.
Мой дух — вандроўны чарадзей,
які не стане на калені
перад натоўпам крыжакоў.

Няхай яны п'юць малако
і ў белым саване малення
цягаюць вілы па вадзе,
свой розум кінуўшы за краты.

А я між тым палезу ў кратар
на злосць хлуслівай чарадзе,
каб сыпаць атамы праменняў
на сонных праведных быкоў.

## *Кропля настрою*

Сонцам спаленыя свечы
расцякліся недарэчы.
Цераз роспачы парэнчы
перагнуўся гэты вечар.
Боль святы і невылечны
у душы няспынна. енчыць.
Ад растання да сустрэчы —
толькі момант, толькі вечнасць.

## *Рэха серанады*

Пад пурпурны тонкі вэлюм ноч схавала твар.
Апельсінавая поўня спее спакваля,
і аб ёй скуголіць сумны і стары ліхтар.

Ап'янелая ад стомы ціха спіць зямля.
Спяць і птушкі, і расліны, і чароды хмар,
і дзяўчына, што разбіла сэрца караля.

Толькі чэзне ад бяссоння малады ўладар,
хоча ўзняцца ён на крылах мроі-матыля
каб нанова акунуцца ў чарадзейны вар.

* * *

*Вадзіму*

Ліаны слёз над безданню адчаю
малюе дождж струменямі на шкле.

На попелішчы часу дзень сатлеў,
пакінуўшы сляды за небакраем.

Вярэдзіць сэрца зноў туга старая.
Грахом няздзейсненым твой вобраз паўстае.

Я ўсё зрабіла правільна, але
чаму ж сябе за гэта дакараю?

Калі разважнасць з трону саступае —
становяцца пачуцці на чале...

* * *

Крывавыя пялёсткі звялых руж
рассыпаны вакол хрустальнай вазы.

Нагад пра ноч шалёнага экстазу
мне ў сэрца запаўзе, быццам вуж.

Хачу схаваць пагляд над капялюш,
а роспач растварыць у рытмах джазу.

Разбіта трызненне адзіным сказам,
і рэха слоў прынесла холад сцюж.

Не важна хто ты — сябра мой ці муж —
такога нам не зведаць больш ні разу.

На ўсе пытанні будуць мне адказам
крывавыя пялёсткі звялых руж...

* * *

Насуперак усім вятрам
мы ўпарта выпрастаем крылы
і паляцім скрозь горкі дым
з драконам палка-маладым
у край, дзе злыя кракадзілы
ўчыняюць баль вялікіх драм.

Мы спалім лес замкнёлых брам,
каб дыхаць водарам настылым
і сыпаць смехам залатым.
А смех той хлопчыкам малым
міжволі дойдзе да магілы,
шукаючы дарогі ў храм.

* * *

Сталасць сакральнага свету
стоена спальвала словы.
Плакалі мроі-фантаны,
боль узыходзіў палынам.

Вострым лязом успамінаў
сэрца мне раніў каханы,
і станавіўся барвовым
фон за маім сілуэтам.

З келіха даўкага лета
час выпіў больш за палову.
Розум, тугой узараны,
трызніў аб цёмнай даліне.

З горкай атруты змяінай
быў адвячорак сатканы.
Смерць з нараджэннем чарговым
блыталі думкі паэта...

## *Сюр-настальгія*

Бледны саван, сатканы для згубнага шлюбу з туману,
душыць енкі аб волі і рэшткі пасечанай веры.
У прасторы лунаюць сляпыя вяшчальнікі цноты,
і світанне крывавы арнамент на ўбранні выводзіць.

З цягам часу ўспаміны раздробяцца рубам падману,
спадзяванні загінуць у бітве з уяўнай хімерай,
а нявеста, якая пазычыла срэбра ў самоты,
сваю долю ў пакутах пад горкаю зоркай народзіць.

## *Анархічныя алегорыі*

Агонія агністай акварэлі
адчайна апраменьвала аблокі.

Асуджаны аслепнуць ад апёку,
анёл атрутай абліваў арэлі.

Аблада адчуванняў ачмурэлых
ахутвала аскетаў адзінокіх.

Азмрочыўшы абліччa абалонкі,
абстракныя абрысы абгарэлі.

## *Апошняя скрыжаль*

Чортавы тузін
склаўся з пялёсткаў
дзікіх цюльпанаў,

кімсьці сарваных
хціва і жорстка
летам на лузе.

Стомленай Музе
статак анёльскі
служыць старанна:

слоў вершаваных
доўгую лёску
звязвае ў вузел.

## *Лабірынты душы*

### Вянок санетаў

**I**

Куды пайсці? Стаю на раздарожжы,
на тонкім хісткім мосціку стаю.
Хачу я адпусціць душу сваю.
Няхай сабе ляціць у падарожжа!

Яна сустрэне шчасце там, быць можа,
альбо загіне. Лёсу аддаю
яе. Заўчасна рэквіем пяю.
За гэты цяжкі грэх даруй мне, Божа...

Але... Маю малітву ты не чуеш.
Бяссэнсна... Мне нічога не даруеш,

бо ты — міраж, і не табе судзіць
блукаючую прыцемкам дзяўчынку.
Я нарабіла шмат благіх учынкаў,
і страчанага болей не набыць.

**II**

І страчанага болей не набыць...
Яно прайшло і знікла назаўсёды.
Не вернецца, такі закон прыроды.
Мне шмат чаго хацелася б забыць,

ды памяць вечным помнікам стаіць.
Яе ўспаміны, быццам электроды,
душу б'юць токам. З гэтакай нагоды
яна ад іх трапеча і баліць.

Хутчэй, хутчэй ёй лекара знайдзіце,

мікстуру ад хваробы прапішыце,
бо нервамі мне трэба даражыць,
Няшчасці набліжаюцца імкліва.
Азмрочаны мой шлях, таму не дзіва:
губляю часам я жаданне жыць,

### III

Губляю часам я жаданне жыць.
Такое ў кожнага з людзей бывае,
калі душа дакладна адчувае,
што іншым чынам лес свой не змяніць

Хацела б я дашчэнту спапяліць
усё, што мне маркоту навявае,
і тых, хто мне лісліва спачувае,
і тое, з-за чаго магу схлусіць.

Але цярплю, прыходзіцца трымацца,
на паратунак нейкі спадзявацца.

А свет людзей настроены варожа.
Я рызыкую стаць такой сама.
Нікому справы да мяне няма.
Пачну тануць ніхто не дапаможа.

### IV

Пачну тануць -— ніхто не дапаможа,
а потым — самагубствам назавуць
і слёзы горкія па мне пральюць,
Жыву я пад цяжарам горкай ношы.

І гэта бачыць, разумее кожны.
Няўжо руку складана працягнуць?
Не, ім лягчэй сумненне падмануць,
лягчэй схавацца ім у лес таёжны.

Нязменнае людское асяроддзе

ўжо на працягу некалькіх стагоддзяў.

Са шчырасцю, зусім не асцярожна
ў людскія сэрцы стукаю цяпер,
а мне ў адказ — падман і недавер.
Стаміўшыся, я падаю на ложак...

## V

Стаміўшыся, я падаю на ложак,
Заснуўшы, бачу незвычайны сон.
Нібыта грае марш свой Мендэльсон.
Людзей збірае смерць. як быццам збожжа.

Нясуць труну і кветак шматпрыгожых.
Ільецца дождж з вачэй. Дзе ж парасон?
Так недарэчна ўсё, адзе ж рэзон:
смяяцца ў гэты час зусім не гожа.

Падараваў мне розум з'яву гэту
і сапсаванасць успрымання свету.

Душу і сэрца трэба падлячыць,
іначай можна звар'яцець ад стрэсу.
І сон мой — яўна сведчанне рэгрэсу.
Даўно мне неабходна адпачыць...

## VI

Даўно мне неабходна адпачыць,
пазбавіцца ад смутку неабходна.
Душа імкнецца дыхаць больш свабодна.
Яна аб гэтым моліць і крычыць.

Яшчэ з маленства я люблю сачыць
за тым, што вечна, а не проста модна.
Аналізам займацца мэтазгодна,
каб правільныя вывады рабіць.

Але пакуль у калаўроце думак
ад смутку не знайшла я паратунак.

Наадварот. Паспела я згубіць
шмат важнага і ад жыцця стаміцца.
Я ведаю, што трэба ўжо спыніцца,
свае памылкі перастаць лічыць.

### VII

Свае памылкі перастаць лічыць,
адкінуць прэч атрутную маркоту,
напоўніць нейкім сэнсам адзіноту
і толькі аб шчаслівым варажыць...

Ці здолею? Перада мной ляжыць
цярністы шлях, дзе я пакіну цноту,
прайшоўшы праз цямноцце, бруд і слоту.
Да ўзвышанасці дзверы адчыніць

і ў творчасці знайсці сябе складана.
Пачнеш ты ісціне служыць аддана,

пачнеш шукаць яе ва ўсім заложна...
Адбітак вынікаў чытаецца ў вачах —
няўпэўненасць, сумненні, боль і жах...
Яны бясконца мне душу трывожаць.

### VIII

Яны бясконца мне душу трывожаць.
Сумненні злыя, захапіўшы трон
душы, пацціху набліжаюць скон.
Нясуць імкліва, быццам воды Сожа,

свядомасць у пустэчу. Злая мнонасць!
Я за табой памкнуся наўздагон.
Калі ва мне абудзіцца дракон,
яму ніщто процістаяць не зможа!

Душа мая хавае таямніцы.
Анёл у ёй мяжуе з шаляніцай.

(Прагляне існасць, калі ёй дазволіць!..)
...Жыццё паднесла жорсткі свой урок.
Зрабіць я паспрабую першы крок.
Хай смутак не марнуе сэрца болей!

### IX

«Хай смутак не марнуе сэрца болей!» —
падняўшы гэты тост, я п'ю віно.
Здаецца, што патраплю я на дно,
калі жаданні ўсе змагу спатоліць.

Душа мая знясілена ад болю,
а выйсце, пэўна, як заўжды, адно.
Адзінае, і тое не відно.
«Дэпрэсія — ад несвабоды волі,» —

так сведчыў Ніцшэ. Што ж, я разумею.
Галоўнае, каб не згубіць надзею.

Пакут і мук я зведала даволі.
Якіх? Аб гэтым лепей памаўчу.
З маркотай развітацца я хачу,
ды, мусіць, не бываць таму ніколі,

### X

Ды, мусіць, не бываць таму ніколі,
што значна пёс я здолею змяніць.
Таму наўрад ці я змагу спыніць
самотны вір сваёй няшчаснай долі.

Я тлею, як папера на вуголлі,
мая душа палае і гарыць.
У сэрцы рана. Як яе закрыць,

каб людзі не насыпалі больш солі?

Прыходзіць смутак зноў неспадзявана...
Што мне яшчэ ў жыцці наканавана?

Трымаю я, нібыта булаву,
цяжар праблем. І толькі ў марах проста
ад іх мне збегчы на бязлюдны востраў,
напоўніўшы развагай галаву.

**XI**

Напоўніўшы развагай галаву,
хачу знайсці я мэту існавання,
пакуль не знікла ў сэрцы адчуванне,
што недарэмна век свой пражыву.

Жыццё выпрабаваннем назаву —
не памылюся. Зведаць боль, каханне,
нягоды, шчасце і расчараванне,
пазнаць асновы справы і навук

даецца кожнаму. А ў чым жа сутнасць?
Жыццёвы кошт высокі — шматпакутнасць.

Яна зліваецца з душой людскою,
турбуе нават падсвядома ў сне.
Не абмінула гэта і мяне:
я ад пакут не ведаю спакою.

**XII**

Я ад пакут не ведаю спакою.
Мне весялосцю не прагнаць журбу.
Нагадваю я ніцую вярбу,
якая моўчкі плача над ракою.

Хачу ствараць уласнаю рукою
сваё жыццё. І вось у барацьбу

ўступіць імкнуся з лесам. А мальбу
аб ціхім шчасці захаплю з сабою.

Але пакуль што распасцерці крылы
яшчэ не час. Калі збяру я сілы
і падрыхтуюся як след да бою,
гады пачну з Сусветам ваяваць.
Няхай мяне спрабуе ўтаймаваць!
...Чаму я нарадзілася такою?

## XIII

Чаму я нарадзілася такою?
Хачу я ў свеце ўсё спазнаць хутчэй.
Сябе шукаю... Мо было б лягчэй
быць простаю дзяўчынкай гарадскою?

Не Афрадытай — пенаю марскою, —
русалкай буду ў цішыні начэй.
Заленаватым колерам вачэй
душу камусьці ахіну смугою.

Гатовы нехта ўжо мяне праклясці ..
Я прадчуваю, што свой шлях пракласці

і за ўвесь час не трапіць у дрыгву
зусім няпроста, бо не любяць людзі
аднаасобнікаў. Што ж, будзь, што будзе!
Цячэ жыццё — і я па ім плыву.

## XIV

Цячэ жыццё — і я па ім плыву
паўз дні, світанні, ночы, адвячоркі...
Шлях гэты ў небе асвятляюць зоркі.
Магчыма, што яго я абарву,

закончыўшы апошнюю главу
фіналам, быццам у Гарсіа Лоркі.

Жыццё бывае часам перцам горкім,
а можа быць салодкім, як кавун.

Для дзейнасці я выбіраю сферу…
Аддацца Богу мне ці Люцыферу,

альбо свядома заставацца той жа:
упарта не прымаць нічый закон,
удасканальвацца да схілу дзён?
Куды пайсці? Стаю на раздарожжы

**XV**

Куды пайсці? Стаю на раздарожжы…
І страчанага болей не набыць.
Губляю часам я жаданне жыць.
Пачну тануць — ніхто не дапаможа.

Стаміўшыся, я падаю на ложак —
даўно мне неабходна адпачыць,
свае памылкі перастаць лічыць,
Яны бясконца мне душу трывожаць.

Хай смутак не марнуе сэрца болей!
Ды, мусіць, не бываць таму ніколі.

Напоўніўшы развагай галаву,
я ад пакут не ведаю спакою.
Чаму я нарадзілася такою?..
Цячэ жыццё — і я па ім плыву.

## *Танцы на шкле*

Чарговы Дзень у маім жыцці... Дзень, якіх было ўжо шмат, а будзе, напэўна, яшчэ больш. Дзень, які нічым асабліва не вылучаецца з шэрагу папярэдніх, але чамусьці менавіта ён запаў у сэрца. У гэты Дзень мне падалося, што я стаю на парозе вялікага адкрыцця... Увогуле, усё жыццё для чалавека — адкрыццё. Мноства маленькіх спазнанняў выліваюцца ў адзін вялікі акіян... Аднак, чым больш ведаеш,тым складаней становіцца жыць. Так і сягоння: цяжар спасцігнутага мной стаў больш важкім... Але як бы там ні было, гэты Дзень адышоў. Пануе Адвячорак. Ён чакае пані Ноч, каб хуценька пацалавацца з ёй і збегчы, накінуўшы яе тут валадарыць.

Я бяру гумку і паступова пачынаю сціраць межы паміж рэальным і неіснуючым. Гэта даволі цікавы занятак. Ну вось, ужо асноўная мяжа пайшла пункцірам... Праз адкрытыя шлюзы адно рэчыва пранікае ў другое, адбываецца ўзаемаабмен і пачынаецца дыфузія. Тым часам я спрабую дакапацца да глыбінь сваёй падсвядомасці. Трэба сцерагчыся драпежніка-ўяўлення і яго дзяцей, бо яны часам перашкаджаюць дабрацца да існасці.«Фантазія, пазбаўленая розуму, нараджае пачвар», — сцвярджаў знакаміты Гойя. Няўжо мае фантазіі зусім пазбаўлены розуму і здаровага сэнсу? Што ж, калі так, то няхай будуць пачвары. Пачварным стварэнням не месца ў сутарэннях, яны таксама маюць права на існаванне,

А Ноч ужо заняла ганаровае месца на троне і пільным вокам сочыць за маімі практыкаваннямі. «Падаць розгі,»— загадвае яна. Відаць, не спадабаліся мае выкрутасы. Канешне, варта было б высекчы мяне як след, каб не займалася лухтой. Чаго ж яна марудзіць?.. Нібы чытае думкі... А хто, скажыце, калі ласка, дазволіў ёй чытаць мае думкі?! Нічога ў чалавека няма, нічога ён не можа схаваць. Нават самыя патаемныя думкі — і тыя нехта прачытае. «Высекчы яе!» — чуецца выкрык. Відавочна, што пан Адвячорак ставіўся да мяне лепш. А гэтая мегера...

Падышла чарга і высеклі і мяне. Не ў першы і не ў апошні раз. Але нічога. Раны хутка загояцца. Я развяду касцёр і буду грэцца. Разгарайся полымя маёй свядомасці! Гары! Знішчай без літасці сваім святлом самоту і сумненні! Палай! Я рассыплю вакол вогнішча асколкі кахання і, скінуўшы вопратку, буду танчыць над шалёныя рытмы начой вакханаліі. Я заспяваю арыю Мефістофеля так, што ўсё наўкол задрыжыць ад узрушэння. Хай свет стаіць на вушах! Ура!! Ды што гэта са мной?.. Такая неверагодная весялосць прадвяшчае вялікі

смутак у будучым. Хто зараз смяецца — потым будзе абліваецца слязьмі. Але я хачу затрымацца ў гэтым імгненні, калі іскры ад полымя салютуюць маёй неўтаймаванай смеласці...

...Нягодам трэба радавацца. Трэба чакаць іх, як чакаюць усходу сонца, вяртання каханай, нараджэння дзіцяці. І трэба сустракаць іх належным чынам. Бо толькі праходзячы праз няшчасці, выпрабаванні і пакуты, чалавек становіцца Чалавекам. Толькі спазнаўшы боль, горыч і роспач, можна адчуць, што такое сапраўдная радасць і асалода. Свет пазнаецца ў параўнанні — старая ісціна. Параўноўваючы сябе з іншымі — пазнаеш. Параўноўваючы іншых з сабой — спасцігаеш. Той, хто не жадае спазнаваць і развівацца, рухацца і ствараць — не чалавек. гэта проста істота. Звычайная грамадская істота, для якой самая складаная праца — думаць. А што да таго, каб мысліць, то для яе гэта — увогуле немагчымая задача...

Усё мінае... Усё добрае працягваецца нядоўга. Вось я сяджу і сыплю на галаву попел ад вогнішча. Валасы мае сівеюць. Я сталею ці старэю — не адрозніць. А Ноч загадкава ўсміхаецца. Цяпер Вы задаволены, шаноўная пані?..

Калі я была маладой, я любіла ўчыняць розныя дзівацтвы. Напрыклад, штурмаваць недасяжныя вяршыні, пілаваць галіны дрэў, на якіх сядзела, танчыць на шкле. Жыццё было б сумным без гэтых дзівацтваў. Бадай, я б закіснула ў змрочным збане зялёнай нуды. І я не шкадую аб тым, што гэта прайшло. Я ўдзячна, што гэта ўвогуле было ў маім жыцці, было ўва мне, у маіх творах...

У маіх творах жыву і я, і тое, што я хаваю ў сабе. Веды нябачны цяжар, які кладзецца на донца душы. Я спасцігла многае. Але гэта — кропля з вока мудрэйшага Дэміурга. Спасціжэнне не бывае без смутку. Таму мае жаданне ля вогнішча можна палічыць бязглуздым. А вялікі Байран меў рацыю:

Sorrow is knowledge: they who know the most
Must mourn the deepest o'er the fatal truth,
The tree of knowledge is not that of life.[1]

Ногі парэзаны шклом, душа стамілася танчыць, а дрэва жыцця не гарыць і не тоне, бо яно — вечнае...

---

[1] Веды — скруха, і той, хто ведае найбольш, павінен рыдаць над бяздоннем непазбежнай ісціны; дрэва ведаў не дрэва жыцця (англ.).

## *Працятая прастора*

Лесвіцы... Вялікія і маленькія, шырокія і вузкія лесвіцы... Бясконцая колькасць іх працінае прастору. А прастора нема крычыць і плача даўкім шэрым дажджом, бо яна не жадае быць працятай. Але гэтыя лесвіцы нельга знішчыць — на іх трымаецца Сусвет, Куды імкнуцца яны: у неба, ці ў пекла? А мо і на небе ёсць пекла?..

Воцат-дождж залівае мяне з галавы да ног. Аднак, я не буду плакаць разам з прасторай. Наадварот, я прадыстылірую яе сваім калючым смехам. Няхай яна прасвятлее! У хуткім часе тут расквітнеюць начныя фіялкі, якія звычайна вабяць самазагубцаў. Дзікі пах гэтых кветак — апошняе ўражанне будучых нябожчыкаў.

Адна з лесвіц вядзе ў нябыт. Але якая? Як адшукаць яе сярод гэтых джунгляў? Дождж звівае ліаны... Складана прадзірацца скрозь іх. Сэрца раптоўна выскоквае з цела і, нібы малпа, пачынае скакаць па прыступках. Сто-о-ой! Куды ты, шалёнае? ! Ці ж не ведаеш, чым гэтыя скачкі могуць скончыцца? От, чорт! Уцякло. Уцякло, як гарэлка з нахіленай чаркі. Але чаму чарка нахілілася?..

На бліжэйшай лесвіцы сядзіць чорт. Ён невялікі, мурзаты, з вострымі рожкамі і бялюткімі крылышкамі, Анёльскае чарцяня! Гэтае стварэнне грызе шакалад і
сумна ўсміхаецца. "Вунь тваё сэрца,"— яно, аблізваючыся, ківае на гарызонт, па якім расцяклася ружовая пляма. Няўжо гэта тое, што засталося ад майго сэрца?? Дзіўная рэч, як увогуле можна існаваць без яго. Але, відаць, можна...

Чарцяня выцягвае аднекуль каністру і падае мне: "Калі пройдзеш 33 мілі — адкрый корак і вылей". Міжволі скарыўшыся гэтаму загаду, я паслухмяна прымаю падарунак. Пасля развітваюся вачыма з чарцянём, а яно дастае новую плітку шакаладу і пачынае смактаць. Ну што ж, наперад! Трыумфальнае шэсце пачалося!.. З неба сыплюцца лаўровыя лісты ў выглядзе мутных кропляў. Сусвет благаслаўляе мяне на самы жудасны подзвіг...

Усе мы — вандроўнікі. Аднак, не падарожнікі, якія ідуць да канчатковай мэты. Бо мэта бывае толькі часовай, шчасце — імгненным, праўда — частковай... Не варта шукаць абсалютаў ні ў чым. Усе адноснасці адносныя. Усё ёсць аднячасова і нішто. Гармонія трымаецца на падставе першапачатковай дысгармоніі. Дзе канец, там і пачатак. Нічога не з'яўляецца і не знікае. Сусвет — гэта шалі.

...А шлях працягваецца. Сутонне ліе ў душу трывогу. Неба спахмурнела. Пачынаецца навальніца. З-за чорных хмар забыцця выскоквае залатая маланка-памяць. Яна асляпляе маю свядомасць, і жыццё пачынае пракручвацца назад, быццам кіналента. Палітра ўспамінаў... Губляю прытомнасць...

...Колькі часу прайшло —невядома. Зараз Ноч.Яна — смуглявая багіня, што засцілае ложак для адпачынку. Салодкі падман! Адпачынку няма і не будзе, бо розум не здольны адпачываць. Думкі-каты не дазволяць яму гэтага...

Там, за небакраем, зіхаціць яскравай палоскай мае сэрца. Яго агрэгатны стан — вадкасць. Але ці сапраўдная гэта вадкасць — трэба праверыць! Узнімаюся... і лячу. Забыла каністру. Вяртаюся. Вяртанне — благая прыкмета... А, будзь, што будзе! Зноў узлятаю над нечым. Ужо немагчыма адрозніць, дзе зямля, дзе неба. Лунаю ў цемры Штосьці ўспрымаю. Аналізую. Раблю высновы. Усё — на ўзроўні інстынктаў і рэфлексаў.

Цікава, што там такое сінее? Зніжаюся. Праклятая каністра! Ледзь не выраніла. О, дык гэта ж тыя самыя фіялкі! Ачмурэла ўтаропіўшыся на іх аргонавы колер, Пьянею ад захаплення і жаху. Што за водар! Ён робіць дыферэнцыяцыю маёй свядомасці. Суцэльная коўдра кветак і мрояў... Засталася б тут назаўсёды. "Застанешся, —чуецца голас здалёк. — Але не тут". Так, мне ж трэба рухацца да гарызонту. Невядомая сіла падхоплівае мяне з каністрай і штурхае наперад. Больш нічога не ўспрымаю дакладна, бо ў вачах стаіць сіняе мора начных фіялак. Мяне чакае тая ж доля, што і многіх маіх аднадумцаў.

У вырай! Я не ў чарадзе, чарада па~за мной. Я не ў статку, статак без мяне. Аднак, фінал ува ўсіх аднолькавы, хоць і прадстае ў розных ракурсах. Я ўжо ведаю, ды баюся сябе запэўніць у тым, што я ведаю нават гэта. Мо я толькі ўяўляю? А ведаць і ўяўляць, верыць і быць упэўненым — не адно і тое ж. Хопіць думаць! Хопіць цкаваць сябе! Гэта самая страшэнная з'ява — зграя бязлітасных думак. Гэта страшней нават за смерць...

Знянацку сінеча ў вачах гасне з-за неверагоднай успышкі пунсова-аранжавага святла. "33 мілі," — грукае недзе ўнутры нябачны датчык. Мой стан — бы наркаман, які толькі што працвярэзіўся. Азіраўся вакол. Аказваецца, я ўжо стаю на нейкім абрыве. Унізе бурліць распаленая плазма. Дык гэта і ёсць мае сэрца?! Як жа я блага ведала яго! Не, яно — не вадкасць, але і не камень. Плазма! Жывая гарачая плазма!..

Дзе мая каністра? Зараз... зараз нешта будзе. Зараз будзе нешта. Жахлівая здагадка на момант ускалыхвае розум. Але ён ужо не можа супроцьстаяць вышэйшай сіле, гэтаму імпэту, з якім я адкідваю корак і лію цёмную густую эсэнцыю ў вар свайго сэрца...

...Выбух. Яшчэ. І яшчэ. Крышацца лесвіцы. Прастора можа быць задаволена — яна пазбаўляецца ад іх, хоць і коштам уласнага знішчэння. Усё ляціць у тартарары. Якое відовішча! Якая велічная місія! Няўжо я яшчэ жыву? Але ўжо нядоўга засталося... ПамiраеСусвет... Памірае, каб нарадзіцца нанова... А ўсё-такі не дарма..

## *Казус імправізус*

Час зморшчыўся ад усведамлення сваёй цякучасці.

Рух замарудзіўся. Свет замаркоціўся. Адзінокі Творца быў у пакоі без спакою і не ведаў, да чаго прыкласці душу і рукі. Халодная і дзіўная кватэра на дванаццатым паверсе шэрага будынка стала для яго бязлюдным востравам. Творца наліў каньяку ў кілішак і сеў у крэсла, выцягнуўшы ногі да старога фамільнага каміна. У галаве мітусіліся дакучлівыя думкі, Ну што гэта за жыццё такое?! Цыгарэты скончыліся. Грошай больш няма. Гарачай вады таксама. Электрычнасць адключана, таму прыходзіцца карыстацца натуральным сонечным святлом альбо паліць свечкі, дровы ці ўласныя творы. Але самае страшнае не ў гэтым. Самае страшнае, што ад яго пайшла Муза...

Не... Не верыцца, што ўсё так хутка скончылася. Няўжо ён больш не зможа тварыць? Але ж без гэтага ён доўга не працягне... Творчасць — тая саломінка, за якую ён трымаўся ўвесь гэты час, каб не патануць у брудным жыццёвым моры. Гэта тое каханне, якое бывае змалку і на ўсё жыццё...

Каханне... А ці было яно ў сапраўднасці? Відаць, было, калі цяпер адчуваеш такую пустку ў сэрцы, Нешта згубілася ў нечым. Але што і ў чым? А ўсё праз яе... Усё з-за разлукі з ёй... Зрэшты, ён сам вінаваты. Хацеў быць вольным, ствараць сваё, асабістае, індывідуальнае. А Муза натхняла яго, апякала, а часам нават актыўна ўмешвалася ў творчы працэс. Такім чынам, атрымоўвалася нібыта сумесная вытворчасць. І за гэта Творца кахаў і ненавідзеў Музу.

Аднойчы сярод ночы, калі ён, седзячы ў ложку, нервова церабіў край коўдры і доўга не мог нарадзіць чарговы твор (а ён заўжды пакутуе ад гэткіх родаў, можа нават цяжэй, чым жанчына, якая нараджае дзіця), дзверы ціхенька расчыніліся. Муза ў белым пеньюары грацыёзна ўплыла ў спальню і мяккім шэптам разбіла хрусталь яе вялікасці Цішыні. Творца раззлаваўся... "Пайшла прэч!" — крыкнуў ён раз'юшана. Муза пакорліва выплыла за межы спальні і прычыніла дзверы. Яна так старалася быць паслухмянай! А назаўтра, прачнуўшыся раніцой, Творца нідзе не знайшоў яе. Нават запіскі аніякай не было. Кудысьці зніклі ўсе яе рэчы, апрача маленькага кольца, падараванага Творцам два гады таму...

Дровы ў каміне дагараюць... Хутка агонь затухне... У кватэры будзе яшчэ халадней. «Жанчына — зло, але я не жадаў бы сабе дабра,»

— прыйшлі на думку словы аднаго філосафа, Ды не, ён не шкадуе, што так атрымалася. Навошта шкадаваць? Цяпер Творца — вольны, ён сам па сабе і ніхто яму не перашкаджае. Але ж куды падзеўся той імпэт, з якім ён ствараў раней? Куды схавалася жаданне працаваць, рабіць нешта новае? Толькі лянота ахутвае яга сваёй агіднай павуцінай...

Veritas femina[1]. Якой яна была!.. Сама вясна, само існаванне... Нельга сказаць, што вельмі прыгожая, але ж... такая чароўная! Муза любіла ваджацца з люстэркам. Мо яна штосьці вышуквала там, у Залюстронні?.. Яна была сапраўднай актрысай... "Хочаш, я буду Клеапатрай альбо Афрадытай? Ці можа Пенелопай?"—часам пыталася ў яго Муза. Яна магла быць усім. Яна і была ўсім, Таму цяпер, калі няма яе побач, здаецца, што няма нічога. І без Музы Творца не зможа заставацца Творцам..

Ён з жахам адчуў, як сцены пачалі злосна насоўвацца на яго, Святло згасла. Ад дроваў у каміне застаўся толькі попел. Пусты кілішак выпаў з рукі і разбіўся. Пачыналася Ноч і чарговая галюцынацыя...

Ён ішоў па звілістай сцяжыне скрозь лес крыжоў. Гэтыя крыжы вырастал! на могілках яго былых задумак. Ён быў сляпы. Такім заўсёды становішся, калі кахаеш. І Творца баяўся стаць відушчым. Ён убіваў сабе ў галаву, што крыжы — гэта стэлы ў гонар ягонага багатага ўяўлення. Але тое, як мы ўспрымаем наваколле, і тое, што яно сабой прадстаўляе ў сапраўднасці — не аднолькавыя рэчы. Добра жыць у свеце ілюзій і глядзець на ўсё з-пад ружовых акуляраў. Добра быць упэўненым у тым, што цябе нехта кахае і ты камусьці патрэбен, хоць на. самай справе кожны любіць толькі сябе самога і не жадае ў тым прызнацца.

Раптам ён пачуў працяглы воклік: "Хто-о-о ты-ы-ы?.." Здрыгануўшыся, ён стаў корпацца ў куфары сваёй свядомасці і вышукваць адказы. Мастак?.. Паэт?.. Музыкант?.. Кожнае паасобку і ўсё разам. '"Я во- ольны-ы Тво-о-орца-а!" — гучна праспяваў ён. "Во-о-ольны- ы??" — зараўло наўкол. "Тво-орца-а??" — загрукатала з усіх бакоў. ...І ён пачаў бачыць. Ён бачыў, як перад вачыма паўставалі карціны і малюнкі, створаныя ім некалі. Бачыў, як пэндзаль акунаўся ў слоік з крывёй і маляваў — шалёна, утрапёна, ачмурэла... Ён бачыў, як з неба, быццам птушкі, ляцелі лісты спісанай паперы з ягонымі вершамі. Вецер ірваў іх на шматкі, і душа Творцы ірвалася разам з імі, Ён бачыў, як раскрытая пашча раялю імкнулася паглынуць яго

---

1 Ісціна жанчмна (лац.)

рукі і прыляпіць пальцы да клавішаў, дашчэнту выцадзіць мелодыі з хворага сэрца. Усё змяшалася ў адзін вар'яцкі вір... Творца адчуў, што вакол — суцэльнае бяздонне, якое з пачварным рогатам усмоктвае яго...

Ду-ум. Ду-ум. Ду-умкі пачынаюць варушыцца ў галаве. Ду- ум. Ду-ум. Гадзіннік адлічыў дванаццаць удараў. Поўнач. Поўня. Жоўтаяталерка на фоне чорнага абруса неба... Ён ачомаўся... Хутчэй узняцца і занатаваць усё, што бачыў... Аказваецца, нешта ствараць можна і без Музы... Але што гады атрымоўваецца? Лухта?.. Бязглуздзіца?. Недарэчныя фантазіі?.. Не.. Нельга так. Лепш ніяк, чым так. . Лепш нічога, чым блага... Там, у маленькай шафе прыхавана ампулка з цыяністым каліем — раз, і ўсё гатова... Ён больш не Творца... Ён не даруе сабе... Яна не даруе яму... У гэтую ноч было спазнана занадта шмат... Чаму ж тады так дрыжыць рука, а ўнутранае прадчуванне сцвярджае, што Муза павінна вярнуцца... Яна ж таксама кахае... Таксама шаляніца... А-га! Зноў заспакойваючыя ілюзіі! Не... Хопіць ужо... Бывай, жыццё... І даруй, калі можаш...

Нерухомае цела Творцы спакваля апусцілася на падлогу. Ду-ум... Гадзіннік прабіў усяго адзін раз. Адзін, адзіны, яшчэ адзін геній... Але ён не знік — проста перайшоў у іншае вымярэнне...

А праз некалькі гадзін ключ шчоўкнуў у замку. Дзверы моўчкі расчыніліся. Яны не маглі рыпнуць, бо згубілі свой голас. А ім так хацелася закрычаць, заенчыць.

Усё трэба рабіць своечасова. Паміраць таксама. І вяртацца, калі гэта неабходна...

У кватэры з'явілася Муза. Яна вярнулася роўна праз трое сутак. Не вытрывала. І ён не вытрымаў. Людзі, вам заўжды не хапае вытрымкі!

Яна чыркнула запалкай, і святло знішчыла ўсе надзеі, бо позірк заўважыў яго. Гэта быў нібыта не ён, — такі пануры, маўклівы, халодны. Не адгукаўся на ейнае прывітанне. Не варушыўся. Толькі на падлозе — маленькая ампулка...

Запалка дагарэла і балюча апякла пальцы. Муза адсунула фіранку, расчыніла акно і ўзлезла на падаконнік. Прахалодны вятрыска легкадумна паклікаў яе за сабой... І Муза выпырхнула з дванаццатага паверха насустрач неабсяжнай прасторы...

Пачыналася світанне. Усё толькі пачыналася...

## *Размыты эцюд, альбо размова з нябачным радцам*

Самлелае сонца ляніва агарнула краявід сваім барвовым плашчом. Наваколле насычалася даўкім віном адвячорка. Пакуль аднавокія кветкі збянтэжана лыпалі пялёсткамі-вейкамі, распуста-вецер спакушаў маладзенькую траўку. П'яныя дрэвы шапацелі мелодыю ўсім вядомай песні. Песня была пра тое, як "душы стала душна, і служкі ёй слушна параілі рушыць пад душ". Сонная зямля глытала гукі гэтай калыханкі.

— Ты не ўмееш чытаць.
— Чаму ж гэта?
— Чытаць трэба не толькі выразна і "з пачуццём, тактам, расстаноўкай", але і між радкоў, пазіраючы за абалонку слоў, выцягваючы з "цела" вантробы...

Па небу плылі вочы... Яны былі самых разнастайных колераў і адценняў: карыя, зялёныя, шэрыя, блакітныя... Але асабліва вылучалася адно з іх — фіялетавае. Яно прыцягвала да сябе ўвагу нейкай патаемнай прынадай. У агульным шэрагу фіялетавае вока выглядала чужынцам. Яно не жадала разам з усімі
піць віно, і толькі маўкліва трымала ў сваім ўлонні салёныя пацеркі слёз,.,
— Гэта ўжо лепш.. Усе добрыя паэты заўжды добра чытаюць вершы...
— Я ж не паэт.
— Тое ж самае датычыць і празаікаў.
— Я і не празаік. Я толькі спрабую, пачынаю...
— Няма пачынаючых. Калі так думаць, то ўвесь час будзеш "пачынаючым"... Гэта альбо ёсць, альбо.няма. Нельга навучыць гэтаму. Можна толькі параіць, падказаць, накіраваць..

Вочы прагнулі відовішчаў. Хмяльны настрой паабяцаў ім стварыць усё магчымае і немагчымае. Забаўляльная праграма планавалася ажно да ночы, Пачаць варта было з дрэваў. Магутны харал гэтых гулякаў выводзіў песні на панэль адну за другой і штурхаў іх за браму ўспрымання. Па загаду вачэй выконваліся сучасныя і рэтра-шлягеры, Публіка лагодна ўспрымала канцэрт, апроч фіялетавага вока.

— Пазбягай прымітывізму. Пашырай свой кругагляд. Не варыся ва ўласным соку.

— Але ж я спрабую ствараць менавіта асабістае, не падобнае да іншых,..

— Тым больш. Май зносіны з цікавымі асобамі. Абменьвайся вопытам. І памятай: лішніх ведаў у пісьменніка няма.

Потым шаноўнай грамадзе прапанавалася прагледзець кінастужку з лёгкай эротыкай, якая паступова пераходзіла ў крымінальнае дзеянне. Стужка цягнулася па зямлі і не спынялася нават тады, калі некаторыя вочы пачалі міжволі заплюшчвацца У галоўных ролях былі заняты папулярны Ветравей і зусім яшчэ маладая і малавядомая Траўка. Сюжэт выклікаў вялікі рэзананс і пэўнае хваляванне сярод аўдыторыі. Цікавасць, праяўленая да прадэманстраванага, была вялізнай. Выключэнне аднак, склала фіялетавае вока, якое адмовілася глядзець стужку.

— Табе трэба вызначыць свой стыль. Пэўныя контуры ўжо ёсць, але гэтага недастаткова, Стыль — гэта вопратка, ці можа нават адзенне, без якога ты — голы кароль

— Мо лепей прытрымлівацца традыцыйных формаў і тэм?

— Можна, але… так наўрад ці пойдзеш далёка. У гэтай галіне і без цябе ўжо шмат зрабілі. Шукай! Калі знойдзеш, стыль стане тваёй зброяй. Ты будзеш дыктаваць умовы астатнім, а не яны табе…

Пасля гэтага вочы пачалі свідраваць паветраную прастору і глядзець праз яе на сваіх малодшых братоў — інфантыльных кветак, — якія па-ранейшаму нічога не разумелі. Кветкі не маглі зміркціць, для чаго вачам спатрэбілася лётаць у нябёсах і займацца рознымі вычварэннямі, калі можна спакойна боўтацца на сцябліне і піць жыццёвы напой з безадмоўнай зямлі…

— Не забывай пра лагічны ланцужок, каб не ствараць лухты. Не пішы без душы, але і не агаляй яе да канца.

Творца павінен быць шчырым…

— Так, але ж да пэўнай ступені. Тваю шчырасць могуць не ўспрыняць альбо ўспрыняць адмоўна. Але і не спрошчвай. Не імкніся да ўсеагульнага разумення і сімпатыі.

Вечаровы хмель размахваў барвовым плашчом матадора і заклікаў уступіць з ім у бой...

— Працуй, працуй і яшчэ раз працуй. Адпачываць будзеш на тым свеце. Не страчвай любові да сваёй працы. Не спыняйся на дасягнутым.

— Але чым вышэй узнімаешся, тым больш становіцца рызыка ўпасці ў бездань...

— А ты не будуй паветраных замкаў. Разлічвай свае сілы. Прыслухоўвайся да крытыкі, але не ідзі на повадзе за ёй. Ты — гэта — ты, не больш і не менш. Ды ўвогуле, творчасць — справа індывідуальная, і гутаркі аб ёй можна весці бясконца...

І тут фіялетавае вока не стрымалася. Яно раскрыла ўлонне, і пацеркі дажджу пасыпаліся на млявую зямлю, абуджаючы яе. Дрэвы ўміг працвярэзіліся, Вецер кудысьці збег, бессаромна пакінуўшы Траўку, якая, дарэчы, цяпер ужо стала Травой. А кветкі пачалі бязглузда смяяцца над сабой і ўсімі астатнімі У рэшце рэшт вільготныя пацеркі размылі і эцюд, — намаляваны маёй ўзрушанай фантазіяй...

## *Патанаючы ў зімовым сутонні*

Сівы вечар, Паўзмрок. Трэшчына паміж двума сусветамі. Любімы час, калі хочацца думаць аба ўсім і аб нічым.

Свечка, чорная кава, цыгарэтны дым і музыка Стравінскага па радыё ствараюць нейкі няўцямны настрой.

Мой унутраны свет выходзіць вонкі і сплятаецца з мноствам неспазнаных рэальнасцяў. Усе незвычайныя рэчы, якія адбываюцца са мной на працягу апошняга перыяду ужо не здзіўляюць мяне — я прымаю іх як неабходнасць. Гэтак будзе з кожным, хто паспрабуе пабачыць другую грань шматграннай ісціны.
Хутка Новы год — у мінулым любімае свята. Але цяпер не ведаю — дзе і з кім яго сустракаць і ці сустракаць наогул, бо час для мяне спыніўся і застыў у адзіным імгненні.

Тое, што людзі падзяляюцца на дзве катэгорыі — дурняў і душэўнахворых — я зразумела даўно. Прычым заўважыла, што апошніх — значна меней. Як сказаў мне аднойчы знаёмы паэт: "А па знешнасці і не скажаш, што ты вар'ятка". Даволі ўдалы камплімент, хоць і падобны да ліслівасці.

Гэтым можна ганарыцца, калі цябе лічаць за вар'ятку. Вельмі ўжо мала тых, хто здольны кінуць пальчатку грамадству. Быць такім, як усе — проста брыдка. Трэба няспынна змяняцца — інакш будзеш жывым трупам.

Нядаўна размаўляла з адным сваім сябрам. Усё выйшла неяк непрыкметна, калі я пачала весці размову аб тых паняццях і з'явах, аб якіх рэдка хто задумваецца. Раней ніколі з ім пра гэта не гутарыла. "Наўрад ці я засну гэтай ноччу", — сказаў ён мне на развітанне.

Спаць ноччу — прывілея ўсіх нармальных людзей. Але так не цікава. Спаць трэба днём, а ноч пакідаць для творчасці і разважанняў, Ноч — выдатны час для рамантычных прыгод і для таго, каб у чарговы раз здзейсніць нейкае вар'яцтва. Гэта ж так рамантычна і сапраўды па-вар'яцку — сярод ночы збегчы з дому, ад бацькоў,туды, дзе цябе чакаюць, нацягнуўшы на сябе тое, што патрапіцца пад руку.

Рамантычна — ехаць у халодным аўтобусе і выслухоўваць доўгі маналог незнаёмага мужчыны аб тым, што ты з'яўляешся копіяй яго першай каханай. А пасля ісці пешшу некалькі прыпынкаў, падцягваючы на хаду спадаючыя калготкі, і глядзець на далёкае неба і вялізныя зоркі.

Рамантычна—растраціўшы апошнія грошы, піць ноччу піва на вакзале і назіраць за тым, як прыбываюць і адпраўляюцца цягнікі. А потым, замест таго, каб вярнуцца дадому, завярнуць на могілкі і крыху пагуляць там, разважаючы аб недарэчнасці быцця.

А быццё наша — сапраўды недарэчнае. І доказам таму можа паслужыць гэты мой настрой, які прасачыўся са свядомасці і патрапіў на паперу.

## ***Квецень кактуса***

Дык, значыць, валасы пафарбуем у зялёны колер? А ці не занадта гэта будзе? — работніца цырульні доўга не магла прыступіць да выканання сваіх службовых абавязкаў. Навошта Вам ператвараць сябе ў невядома што? Я разумею, гэта даволі экстравагантна, але мо лепей...

Яна паглядзела на цётку-балаболку доўгім пранізлівым позіркам, і зялёная атрута вачэй ураз прымусіла тую змоўкнуць.

— Ну, добра, жаданне кліента — для нас закон, нарэшце абвясціла цётка і ўсадзіла дзяўчыну ў крэсла.

Лаўра зазірнула ў люстэрка і ўбачыла, што амаль усе прысутныя ў цырульні глядзяць на яе з цікавасцю. Зараз адбудзецца відовішча для натоўпу! Што ж, няхай лыпяцца. Больш нічога ім не застаецца. Пэўна, прыйдуць дадому і пачнуць: "Ведаеш, сёння ў цырульні адна дзяўчына пафарбавалася ў зялёны колер. От, бываюць жа дзівачкі!"

І сапраўды, такіх, як яна, варта яшчэ пашукаць! Прыемна адчуць сябе рэліктам, выключэннем і непрызнаным геніем, Гэта стымулюе пачуццё ўласнай важнасці. Але ад яго неабходна пазбаўляцца, і як мага хутчэй. А разам з ім пазбаўляцца ад усяго астатняга — страху, жалю, жаданняў і мэтаў. Можна пакінуць толькі мроі і летуценні, як выключэнне з правіл.

Нешта дзіўнае тварылася ў яе галаве, А на галаве стваралася прычоска. Цётачка завіхалася ля яе, наносячы на валасы фарбавальнік. Лаўра з задавальненнем думала, што ўсё ідзе так, як трэба. Яна вырашыла: жыццё будзе складвацца так, як ёй захочацца і не інакш, што б там людзі не казалі. Калі яна была маленькай, марыла патрапіць на бязлюдны востраў і жыць там у адзіноце, як Рабінзон, Мара амаль спраўдзілася: востраў Лаўра стварыла ў сваім уяўленні. Яна ведала, што ёсць толькі два шляхі: або ты падпарадкуешся гэтаму свету, станеш такой, як усе, або створыш свой свет і прымусіш сябе змяніцца. Зразумела, абраны быў другі шлях, бо яна ўмела размаўляць з жывёламі, раслінамі і прыроднымі з'явамі на роўных. Людзі ёй хутка надакучвалі сваёй мітуснёй і дробязнасцю.

— Пасядзіце пад сушылкай хвілін дваццаць, — загадала жанчына ў халаце.

Лаўра ўключыла фен, заплюшчыла вочы і ...ўявіла вялізную пустэчу. Жоўты, гарачы пясок, простань спякоты і толькі адна выдма

на ўсёй роўнядзі. Гэта яна і ёсць — тая выдма. Адзіная ў мёртвым сусвеце. Пачуцці спалены промнямі сонца. Атмасфера прыціснула яе да паверхні сваёй спрасаванасцю. Давіць страшэнна, Усё давіць — людзі, грамадскі лад, думкі. Разарваць кола, разбіць сцяну і — наперад, да волі. І хоць аголеная воля мае пачварны выгляд, усё ж такі яна лепш, чым марыянетачнае існаванне.

— Ну вось, валасы ў Вас цяпер зялёныя, нібы у русалкі, — цырульніца з задавальненнем глядзела на вынік сваёй працы.

Лаўра выйшла з цырульні. Сёння шчаслівы дзень, бо расцвіў яе любімы кактус. Нібы падарунак да дня нараджэння. Кактусы наогул цвітуць вельмі рэдка, а тут — такая шыкоўная квецень. Нядаўна яна іголкай балюча ўкалола сабе палец. І незнарок. Гэта была плата за будучую кветку. Чым мацней боль, тым больш задавальненне, Чым больш аддаеш,тым больш сілы ў цябе накапліваецца. Не будзеш імкнуцца займець усё — станеш самай багатай.

Цёплы вечар затапіў наваколле сваёй павольнасцю і размеранасцю. Лаўра ішла па вуліцы, не азіраючыся і не звяртаючы ўвагі на рэдкіх прахожых, толькі лагодная ўсмешка квітнела на трапяткіх вуснах. Яна зайшла ў арку старога дома, і тут яе дагнаў бадзёры покліч:

— Гэй,русалачка!

Лаўра азірнулася і пабачыла двух хлапцоў з накачанымі біцэпсамі і пажаднымі позіркамі. Яны набліжаліся да яе шпаркай хадою і з выразна акрэсленым агульным намерам, Дзяўчына спынілася, і гэтак жа загадкава ўсміхаючыся, спакойна дачакалася, пакуль незнаёмцы абступілі яе з двух бакоў.

— Ну што, прыгажуня, прагуляешся з намі?

Яна моўчкі назірала за імі.

— Нешта ты не праяўляеш энтузіязму. А дарэмна. З такімі, як мы, сумаваць не прыйдзецца, — адзін з хлапцоў дакрануўся рукой да яе шчакі, абмацаў фігуру і пачаў лезці пад спадніцу.

— Чаго марудзіць? — прашыпеў другі, прыціскаючы дзяўчыну да сцяны. — Нікога няма побач, а калі б нехта і быў, то не перашкодзіў бы.

На здзіўленне абодвух дзяўчына не выказвала аніякага супраціўлення, быццам не разумела, чаго ад яе хочуць.

Першы пачаў таропка расшпільваць гузікі на яе блузцы. Рукі ў яго трэсліся ад хвалявання, а вочы мітусліва бегалі. Ягоны сябра памкнуўся на ўсялякі выпадак заткнуць дзяўчыне рот, каб не крычала, але яна раптам уцапілася зубамі ў руку хлопцу і вострым

абцасам націснула на нагу другому. Абодва ўзвылі ад болю і не на жарт раззлаваліся,

— От, курва, ну, трымайся цяпер!

І тут яна рассмяялася — гучна, дзёрзка, адкрыта. Гэта быў страшэнны, дзікі смех той, што ведае сваю сілу і можа яе скарыстаць. Яна ўпала на зямлю і пачала катацца па ёй. Смех разлятаўся рэхам па завулках, а хлопцы разгублена стаялі, нібы прышыбленыя токам. Яна смяялася ўсё мацней — да слёз, да ачмурэння, а потым раптоўна ўзнялася, скінула блузку і шпурнула яе у твар аднаго з незнаёмцаў, прамовіўшы: "Што, мне яшчэ і чакаць прыйдзецца?!" І зноў засмяялася.

— Хадзем адсюль, — прапанаваў першы, — Яна вар'ятка.

— Не, прыкідваецца, — заявіў другі і падышоў, каб схапіць яе. А русалка паклала яму руку на лоб, глыбока зазірнула ў вочы, і хлопец пачаў спакваля асядаць на зямлю. "Ведзьма!" — прашаптаў ён.

Лаўра падняла з зямлі блузку, апранулася, ляснула па плячы першага, які стаяў, нібы замарожаны, і з ціхай усмешкай пакрочыла далей. Яна ведала, што сягоння здольная на ўсё і мае неабмежаваную ўладу, бо зацвіў яе любімы кактус...

## ***Пурпурнае сонца, альбо хроніка вандровак па краіне сноў***

Пачалося ўсё з таго, што я памерла. Дакладней мне адсеклі галаву. Я тады была яшчэ маленькая, але добра памятаю гэты працэс. На яскравым жоўтым фоне стаяла драўляна калодка, побач з ёй двое баярынаў у старажытных касцюмах, адзін трымаў сякеру. Падвялі мяне са звязанымі за спіной рукамі, схілілі галаву на калодку і ...адным махам. Крыві чамусьці не было.

Відавочна, што з галавой адляцеў і яе змест, у прыватнасці, мазгі. Ну, а калі чалавек страчвае розум, з ім пачынаюць адбывацца розныя дзіўныя рэчы. І вось праз колькі гадоў я згадваю той выпадак. А перада мной — авангардны пейзаж: на чорным фоне белы чэрап, павернуты ўправа, і ў той жа бок сыходзяцца два фіялетавыя прамяні. Так-так. Раней я любіла жоўты колер, цяпер — чорны. Свядомасць вызначае быццё, а не наадварот.

Пойдзем далей. Авангардызм змяняецца сюррэалізмам. Бачу распасцертае жаночае цела. Гэта зямля. Грудзі — узгоркі. На адным з іх стаіць мужчына, апрануты, як мушкецёр: плашч, батфорты, капялюш з шырокімі палямі і пяром. У выцягнутай руцэ ён трымае шпагу і паказвае ёй кудысьці наперад, быццам правадыр. А вакол— барвовае неба. Вечарэе. Ідуць па полі і раптам падаю з абрыву. Лячу стрымгалоў у чорную прорву. Губляю прытомнасць.

Расплюшчваю вочы і бачу сябе ў белым пакоі. Белы-белы куб, а я — унутры. З падлогі пачынаюць прарастаць белыя крэслы і стол. Невядома, адкуль паступае асвятленне, і чаму гэтая мэбля не мае ценяў. На супрацьлеглай сцяне паступова вымалёўваецца супрэматычнае квадракола. Я прабіраюся скрозь яго, чапляюся за канат і спускаюся ўсё ніжэй і ніжэй. Нарэшце ногі намацваюць цвёрдую паверхню. У-уф! Што за альпінізм! Заўважаю збоку букет — надта незвычайны, каб не звярнуць увагі. На шнурках вісяць лямпачкі, а ў іх — жывыя кветкі. Цуд, дый толькі! Толькі дзе я?

Дзея трэцяя. Дзесьці грае "Машына часу", а тым часам у мяне нарадзіўся сын. Я сяджу ў хаце бабулі і доўга разважаю, як назваць хлопчыка і хто ягоны бацька, Потым нясу дзіця ў кладоўку і пакідаю там, а сама выходжу на двор. Нейкі мужчына ў светлай кашулі падыходзіць да мяне, працягвае пучок саломы і пытаецца:

— Ці не хочаце паспрабаваць траўкі? Пяцьдзесят баксаў.

— Ты што, чувак, — кажу ў адказ, — за дурніцу мяне прымаеш? Думаеш, я не ведаю, як выглядае марыхуана і колькі яна каштуе?

Ён збянтэжана глядзіць на мяне і знікае, Я іду далей, натыкаюся на вялізны ангар. Зазіраю ўнутр, Там ідзе канцэрт вялікага сімфанічнага аркестра. З усёй тусоўкі асабліва вылучаецца кучаравы кот з бантом на шыі, які грае на фагоце. Не буду тут доўга затрымлівацца, хоць і люблю музыку.

Выходжу ў сад. Дзівосная карціна перад маімі вачыма — прыступкі лесвіцы, суздром затопленыя вінаградняй лістотай. Імпрэсіянізм? Акунаюся ў зялёны вадаспад. Прыроджаная цікаўнасць падштурхоўвае мяне да лесвіцы.

Узнімаюся па прыступках уверх і заўважаю над галавой пурпурнае сонца. Яго пяшчотнае святло агортвае мяне з усіх бакоў. Валасы становяцца ліловымі, скура прымае светла-бэзавае адценне. Я абвіваю промнямі рукі і пачынаю ўзнімацца высока-высока ўслед за сонцам...

## *Салёная століь*

Быў Дзень, Святло праходзіла скрозь мяне. Цела падпітвала розум, а розум блытаўся ў павуціне неспазнанага. Я стаяла дагары нагамі на канапе і пільна ўглядалася ў крывава-чырвоны гваздзік. Сэрца білася мацней, і кроў прылівала да галавы. Я адчувала жывы дух кветкі, не астуджаны халодным крышталём вазы. Паветра выцэджвалася прагай жыцця, празрыстая існасць вады паглыналася памкненнем да волі, Зубчатыя пялёсткі краналі свет, і той нябачна рэагаваў на гэты знак спазнання. Я доўга глядзела на кветку, і рантам ў вачах пацямнела. Светлыя кропкі замільгацелі ў свядомасці, галава напоўнілася гулам, і я ўпала на каналу ад усведамлення таго, што гваздзік — гэта Ты...

Надышоў Вечар. У раскрытую фортку заляцеў матыль і пачаў кружляць над лямпай. Гарачая паверхня апякала стракатыя крыльцы, але ён не адпускаў жадання зліцца са святлом. Ён пакутваў і атрымоўваў асалоду ад пакут. Матыль безразважна біўся аб лямпу, адмаўляючыся зразумець свае дзеянні, і ў гэтай шалёнай нецвярозасці хавалася прыгажосць. Ягоная воля выйшла навырунак і затапіла пакой. Мая рука міжволі пацягнулася да выключальніка, каб затушыць святло, бо я пазнала ў матылі Цябе...

Запанавала Ноч. Паклікаўшы за сабой адвечную спадарожніцу Цемру. Думкі збеглі ад мяне, саступіўшы месца чыстаму ўспрыманню. Ты з'явіўся перада мной у абліччы чорнага ката і стаў маім катам. Заскочыўшы мне на жывот, ты кіпцюрамі ўпіўся ў грудзі і пачаў мурлыкаць мне на вуха таямнічыя мантры. Твае пашыраныя зрэнкі атручвалі рэшткі маёй разважлівасці, і я патанала ў нязведанай пространі...

Апоўначы поўня вынырнула з-пад ватнай коўдры аблокаў і заліла наваколле сваёй апельсінавай амбр911озіяй. Вокны зрабіліся вачамі, а я — суцэльнай нервовай клеткай. Прадчуванне прынесла занепакоенасць, Дыханне перахапіла пустэча ўнутранай спякоты. Мужчынскі сілуэт схіліўся над маім целам, і яно затрымцела ад неўтаймаванага імпэту. Я ўзнімалася ўвышыню і рэзка падала ўніз. Твая чуллівасць раз'ятрыла душу да неверагоднай ступені, а твая сіла працяла так, што столь падалася мне салёнай...

У скронях рытмічна пульсавала: "Ты — усё і нішто. Ты — паўсюдна і нідзе. Ты і я —: адно". І калі я нарэшце асэнсавала гэты пастулат, Ты растварыўся ў прасторы, нанова пакінуўшы мяне ў адзіноце. Набліжалася Раніца...

## *Метамарфоза*

У гарах далёкай Маргінальдыі цвіў белы лотас. Ён рос высока і быў недасяжны для тых, хто сноўдаецца па паверхні. Зямны натоўп толькі чуў пра яго, некаторым даводзілася разгледзець кветку, але дабрацца да яе здольных не было. Лотас нібы ўвасабляў сабой цноту і волю адначасова, хоць першае і звязваецца з аскетызмам, а другое — з разбэшчанасцю.

Святло заўсёды з'яднана з цемрай, таму лотас сваімі карэннямі дасягаў бруднай глыбіні і сілкаваўся з яе, ствараючы вакол сябе аўру святасці. Хто светлы, той святы. А хто цёмны? Той, мабыць, грэшны. Але з чаго святасць стварыла паняцце "грэх"? Няйнакш сама пабывала ў гэтай ролі, не змагла затрымацца там, і таму стала дакараць і вінаваціць яе.

Лотас рос, не ведаючы пра грэшнасць і святасць. Ён проста жыў, удыхваючы паветра на поўную моц, бяручы ад сонца як мага больш энергіі. А тыя, што поўзалі па зямлі, толькі ўздыхвалі і марылі апынуцца на ягоным месцы. Не разумелі, дурні, што кожны мае ў Сусвеце менавіта сваю нішу і сваю ролю. Але знайсці яе — нялёгка. Большасць паўзучых разумнікаў была надта лянівай, каб штосьці шукаць, і з гэтай нагоды імкнулася жыць за чужы кошт — думаць чужымі думкамі, карыстацца чужымі дасягненнямі. І ў тым, што яна баялася памыліцца, і заключалася самая страшэнная яе памылка.

Мноства намаганняў прыкладалася, каб знайсці магчымасць дабрацца да лотаса. Што толькі не выдумлялі, як толькі не выкручваліся. Здаецца, усе іх памкненні былі скіраваныя на аваладанне кветкай.

І вось аднойчы вялікі Вынаходнік абвясціў, што ён знайшоў сродак для ўзнясення ўвышыню. У прызначаны дзень з зямлі ўзнялася сферычная пачвара. Вялікі Вынаходнік плыў у дырыжаблі і дырыжыраваў зграяй аблокаў. Натоўп сачыў за ім, перахапіўшы дыханне, пакуль той не знік з полю зроку. Нарэшце дырыжабль наблізіўся да вяршыні, дзе рос лотас, рука дырыжора пацягнулася за кветкай, сарвала яе і...

Знянацку грымнула навальніца. Дырыжабль задрыжэў, Вялікі Вынаходнік ад раптоўнага хвалявання выраніў кветку, і яна патанула ў чорнай бездані. Наляцеў моцны парыў ветру і панёс дырыжабль у адвольным напрамку. Вялікі Вынаходнік лічыўся вельмі разумным, але ён не змог справіцца з кіраваннем свайго стварэння. Праз колькі

хвілін дырыжабль ударыўся аб скалу і спікіраваў у тую ж бездань, куды ўпраў лотас.

Знямелы натоўп страціў здольнасць гаварыць, згубіў свае апошнія думкі і быў задушаны невядомым адчуваннем. Большасць памерла, застаўшыся ў жывых. Тыя, што стварылі цывілізацыю, вышэйшай воляй ператварыліся ў сляпыя бясколерныя абалонкі. Адзінае, што ў іх засталося, — надзея. Яны ўсё яшчэ спадзяюцца, што калі-небудзь у высокіх гарах Маргінальдыі зноў зацвіце белы лотас.

## *Акваторыя ўяўлення*

Плёх!.. Дробныя пырскі разлятаюцца ў паветры. Яшчэ некалькі ўдараў хвастом па паверхні і — стрымгалоў на дно: зарыцца ў пясок, схавацца ад усіх.

Я — невялікая рухавая рыбка з залацістай луской. Боўтаюся ў акварыуме з некаторымі падобнымі істотамі і гляджу на свет праз тоўстае шкло. І, дарэчы, глядзець на яго не так ужо цікава. Галоўнае, што не памятаю, як сюды патрапіла і калі.

Буль-буль!.. Як надакучыў гэты спрадвечны булён! Я плаваю тут, а за сценкай людзі снуюдаюцца па сваёй акварыумнай кватэры. Часам набліжаюць свае вочы да шкла і сочаць за мной. Звычайна я ігнарую іхнюю ўважлівасць да маёй персоны. Падумаеш, які гонар! Няхай бы спярша на сябе паглядзелі! Двухногія думаюць, калі я — рыба, дык нічога не разумею. Проста не люблю балбатаць, як яны, а інакш, я б такога нагаварыла!

Добра малюскам — сядзяць сабе ў ракавінах без усялякіх турбот. А мне даводзіцца суткамі матляцца па воднай рэзервацыі, чапляцца за водарасці, сутыкацца з суседзямі — мітусня, дый толькі. Тым не менш, я ніколі не імкнулася быць малюскам, я прагну нечага грандыёзнага.

Напрыклад, вырасці ў вялізную рыбіну, разбіць шкло і ўзляцець,,. Безумоўна, рыбы не лятаюць у звычайным уяўленні, але ў незвычайным — усё можа быць. Я ўжо нават спрабавала дыхаць кіслародам — ледзьве не задыхнулася. Але гэта нічога — проста неабходна адаптацыя. А мае плаўнікі — ну, чым не крылы, каб толькі яны былі большага памеру і не такія марудныя ў дзеянні.

Зараз падплыву да паверхні і паспрабую падслухаць, што адбываецца за мяжой. Ат, нічога асаблівага...

...Яшчэ лепей было б ператварыцца ў саму водную субстанцыю. Перацякаць з адной формы ў другую, станавіцца ільдом і парам у залежнасці ад абставін, затапляць прастору, паглынаць жывыя арганізмы, змешвацца з рознымі вадкасцямі.

Няма дасканаласці ў свеце! Больш за ўсё я жадала б апынуцца на месцы той сілы, якая служыць перашаасновай усяго існуючага. Авалодаць сілай, што даруе нам жыццё і дасылае смерць, Спасцігнуць сілу, якая вызначае нашу існасць.

А-ах! Пракляцце! Ізноў яна схапілі мяне сачком! Не магу доўга дыхаць паветрам... Куды яны мяне нясуць? Навошта мяне прымушаюць пакутваць? Я ж загіну без вады!

Хлюп! Бр-р... О, H20 —выратаванне!..

Усё! Хопіць плёскацца ў мроях, бо гэта можа блага скончыцца. Цяпер хачу быць сабою — і больш нічога. Між іншым, быць палатой рыбкай зусім няблага... І чаго толькі я забіваю сабе галаву нейкай лухтой? Тое, што ёсць, заўсёды самае лепшае! Бу-у-уль!..

*Трансцэндэнцыя пазнання*

Трактат, які ўмоўна адлюстроўвае сутнасць тлятворнага ўплыву багемы на фарміруючуюся свядомасць і з'яўляецца прадуктам эзатэрычна-экзістэнцыялістскага дуалізму, заснаванага на імпрэсія-нісцка-сэррэалістычным маргіналізме з элементамі эклектычнага антаганізму.

ОМ!

P.S. Dixi et animam levavi.

## *Попел на снезе*

Вечарэла хутка і няўхільна Дух горада нагадваў аб сабе і ледзь чутнымі пахамі. У паветры рэяла пачуццё пратэсту.

Ян сядзеў на лаўцы, паліў цыгарэту і пільна разглядаў свой абутак. Думкі атакавалі ягоную галаву з дзёрзкай шалёнасцю. У царкве, побач з якой ён сядзеў, ішло богаслужэнне. У гэты святы вечар людзі былі нейкія асаблівыя. Больш ветлівыя і прыязныя. "Чамусьці менавіта цяпер усе рэзка дабрэюць,"—падумалася Яну.
Сняжынкі падалі яму на далонь і ўмомант знікалі. Ён сапраўды не ведаў, што рабіць. Варта было б стаяць разам з астатнімі, трымаць у руцэ свечку і каяцца ў сваіх грахах, якіх у яго болей, чым дастаткова.
Жыццё трымалася на падмане. Хлуснёй было прапітана ўсё, што толькі ёсць. Ян зманіў сёння жонцы ў тым, што пойдзе на ўсяночную. А сам сабраўся да іншай жанчыны. Сон альбо ачмурэнне, невядома як назваць, — нейкая д'ябальская сіла цягнула да яе. Ян нічога не мог зрабіць са сваімі пачуццямі. Ён цудоўна разумеў, што гэтак нельга, што ў яго двое дзяцей, жонка, пэўныя абавязкі, і ўсё ж... Здавалася, што ў рэлігіі можна будзе знайсці выратаванне, але вера была надта хісткай перад жаданнем пабачыць Вераніку.

Яна — стройная брунетка, невысокага росту, з пранізлівым позіркам глыбокіх шэрых вачэй. Іх знаёмства адбылося ў звычайным гарадскім трамваі, і з таго часу Ян не мог аб ёй не думаць. Усё адышло на другі план, толькі Вераніка пастаянна стаяла ў яго перад вачыма. Сённяшнюю ноч ён мусіў правесці разам з цёмнавалосай чараўніцай, аднак, нешта яго стрымлівала. Ян ніяк не мог устаць і пайсці, а ўсё сядзеў, моўчкі сочачы за траекгорыяй падзення сняжынак.

І чаму ўсё так заблытана? Ты, нібы мошка, патрапіўшы ў павуціну жыцця, ужо не можаш вырвацца з бясконцага кола абавязкаў і залежнасцяў.

Цыгарэта ў руцэ даўно патухла, і попел ад яе пакорліва асыпаўся на зямлю. Да Яна прыйшло адчуванне, што ягоныя думкі
і дзеянні нібыта попел, усяго толькі попел на халодным снезе рэчаіснасці.

Нікуды ён сёння не пойдзе і тэлефанаваць Вераніцы не будзе. Ніколі. Бо няма ў яго той сілы, якая дазволіла б здзяйсняць вар'яцкія ўчынкі. Ён просты слабы чалавек. Адна маленькая дэталь у вялікім механізме быцця. Што ён можа змяніць у свеце, калі не ў стане

змяніць нават самога сябе? Ян раптоўна ўздрыгнуў і амаль што скурай адчуў агарнуўшую яго цемру. Каля гадзіны ён бяссэнсна бадзяўся па гораду, імкнучыся разабрацца ў самім сабе, і не заўважыў, як апынуўся ля дзвярэй сваёй кватэры.

— Чаму ты вярнуўся? Чаго такі бледны? Нешта здарылася? — жонка занепакоена паглядала на яго.

Ян зазірнуў ёй у вочы і стомлена прамовіў:

— Не, нічога. Зусім нічога...

## *Мандрагора*

Марознае шкло аддзяляе нас ад густой цемры. Калідор інтэрната зацягнуты тытунёвым туманом. Бетонная лесвіца... П'яная гулянка... Балбатня, мітусня, танцы, пацалункі... І менавіта ў гэтым тлуме пачынае злосна выпаўзаць на паверхню нябачны звер унутранай адзіноты.

— Ну скажы мне, як так можна жыць? Я — нібы расліна, маё існаванне абсалютна бяссэнснае, Няўжо так павінна быць?

— Супакойся. Проста ўсе мы тут нецвярозыя. Дый хіба табе так пагрэбен нейкі сэнс? Жыві, пакуль жывецца і радуйся...

О, sole mio! Жорсткія промні выпалілі вусны зямлі, і тыя неўзабаве патрэскаліся. Прагай вільгаці напоўнена паветра. Лепш зусім не дыхаць, чым уцягваць дух пустэльні...

Філосафы шукаюць ісціну, творцы — свабоду, майстры — дасканаласць, вернікі — Бога, простанароддзе — каханне. Існасць гэтых імкненняў у самім працэсе пошуку, бо знайсці яны хочуць тое, чаго няма.

Я, ты, яно. Тры вуглы адной супольнасці, Кожнае можа быць іншым, але не кожнаму гэта дазваляецца. Амёба змагаецца за тое, каб пераўзысці саму сябе. Чалавек становіцца падобным да амёбы. Хмарцы наканавана праліцца дажджом, калі мы з табой знойдзем выйсце з туману. Ты іпытаеться ў мяне: "Што гэта?", а я нічога не магу адказаць, бо таксама не ведаю.

Крыкі змешваюцца з крывёй, жорсткасць з'ядноўваецца з прыгажосцю. Творцы бязлітасныя. Не патрабуйце ад іх міласэрнасці, яны даўно забыліся пра яе. Чалавек-жывёла, чалавек-расліна, чалавек-нішто, а дзе гэты чалавек у рэшце рэшт?..

Калі расліну, што клічуць мандрагорай, вырываюць з карэннем, яна крычыць. І людзі ад крыку таго могуць звар'яцець. Кажуць, расце мандрагора ля падножжа шыбеніц і мае чалавекападобную форму. Напалову расліна, напалову жывёла — яна застаецца спрадвечнай таямніцай. Збіральнікі мандрагоры перад тым, як ссекчы яе мячом, малююць вакол тры колы і пазіраюць на захад. А сонца ўзыходзіць у супрацьлеглым баку...

Што ў нашых словах? Цень ад пустэчы.
Што ў адчуваннях? Смутак галечы.
Каго пытаем? Сваю свядомаець.
Куды мы крочым? У невядомасць.

Ніхто ніколі не зможа не быць нідзе і стаць нічым.

## *Мройны вецер*

Драматычная містэрыя або канцэнтраваная філасофія
ў выглядзе п'есы

**Дзеючыя асобы:**
*Валькірыя* — акторка
*Варволь* — адзінокі мастак
**Заўвага.** У якасці музычнага афармлення пажадана выкарыстоўваць псіхадэлічную, сінхраэлектронную і нетрадыцыйную музыку.

**Дзея першая**

Невялікі кватэрны пакой, утульны, але без усялякіх прызнакаў раскошы. У цэнтры — вялікае акно. Злева ад яго — канала, маленькі перасоўны столік, шафа. Справа — люстэрка, на ім стос кніг і падсвечнік. На падлозе таксама кнігі разам з абрыўкамі паперы і слоікам з пэндзлямі. Пасярод гэтага вэрхалу стаіць мальберт. Паўсюдна адчуваецца панаванне так званага "творчага беспарадку". Званок у дзверы, Яшчэ раз званок. Дзверы расчыняюцца, і ўваходзіць Валькірыя — з выгляду прыгожая і досыць маладая жанчына. Яна апранута ў сукенку, на галаве — капялюш. У руцэ яна трымае невялікі чамадан.

В а л ь к і р ы я (азіраючыся вакол). Ці ёсць тут хто небудзь? Ці ёсць нехта ўвогуле? Дзіўна... Дзверы расчыненыя і — нікога... А кватэрка — нічога сабе (ставіць чамадан на падлогу). Толькі крыху незвычайная... Нібыта не чалавек тут жыве, а нейкі дух...

В а р в о л ь (выскокваючы з шафы і ахопліваючы яе за талію). Ап!

Валькірыя(з віскам абарочваецца). І-і-і! Хто Вы?

В а р в о л ь (адыходзячы на крок і разглядаючы яе з ног да галавы). Гаспадар гэтага кутка Сусвету.

В а л ь к і р ы я (здзіўлена). Не можа быць!

В а р в о л ь. Чаму ж? Можа быць нават тое, што нельга ўявіць.

В а л ь к і р ы я Але... Адкуль вы тут з'явіліся?

В а р в о л ь Хацеў бы я ведаць пра гэта так жа модна, як і пра тое, куды я знікну і калі...

В а л ь к і р ы я Вы кажаце загадкамі.

В а р в о л ь (падміргваючы). Такі ўжо я таямнічы.

В а л ь к і р ы я, Што Вы рабілі ў шафе?
В а р в о л ь. Думаў.
В а л ь к і р ы я Менавіта там?
В а р в о л ь. Кожны робіць гэта па-свойму.
В а л ь к і р ы я Не ведала, што для таго, каб падумаць, варта забірацца ў шафу.
В а р в о л ь А што Вы ведаеце?
В а л ь к і р ы я Пачакайце... Вы — муж Ванэсы?
В а р в о л ь адмоўна ківае галавой.
В а л ь к і р ы я Брат?
В а л ь к і р ы я, Дык хто ж Вы тады і чаму тут апынуліся?
В а р в о л ь. Спачатку Вы адкажыце мне, хто такая Ванэса?
В а л ь к і р ы я. Яна мая старая сяброўка. Дзіўна, што Вы нават не чулі пра яе.
В а р в о л ь. Магчыма чуў, але каб я памятаў усё тое, пра што даводзілася чуць...
В а л ь к і р ы я. Гэта ўсё якаясьці недарэчнасць. Мы пазнаёміліся з Ванэсай некалькі гадоў таму і пасябравалі. Яна пакінула мне адрас і запрашала прыехаць у госці. Пэўны час мы перапісваліся, але потым сувязь чамусьці абарвалася. Тады я, збіраючыся адпачыць, вырашыла завітаць да яе і даведацца, як змянілася яе жыццё, і чаму яна не адказвае на лісты ўжо амаль паўгода. Аднак, як я разумею, яна тут больш не жыве...
В а р в о л ь Можа яна растварылася ў паветры разам з яе рэчамі або нейкім чынам перасялілася на адно з маіх палотнаў?
В а л ь к і р ы я. Дык, значыць, Вы — мастак?
В а р в о л ь. Я той, хто прысутнасць стварае ў пустэчы і нішчыць нябачна ўсе з'явы і рэчы.

Паўза

В а л ь к і р ы я, Вельмі цікава...

В а р в о л ь. Калі я засяляўся ў гэтую кватэру, яна была пустой.
Валькірыя. Калі ж гэтабыло?
В а р в о л ь. Некалькі месяцаў гаму,
В а л ь к і р ы я. Вы нават не можаце сказаць дакладна?
В а р в о л ь. Я цярпець не магу дакладнасць, яснасць і так званы здаровы сэнс.
В а л ь к і р ы я. Вось як?.. Толькі што мне ад таго? Я не ведаю, што рабіць. У гэтым горадзе ў мяне няма знаёмых. Ванэса з'ехала

кудысьці, не пакінуўшы новага адраса. Вяртацца дадому?.. Але ж я збіралася адпачыць. Вы ведаеце які-небудзь танны і прыстойны гатэль, дзе можна спыніцца тыдні на два?

В а р в о л ь. Вы можаце застацца і тут. Навошта шукаць гатэль?

В а л ь к і р ы я. Тут? Разам з Вам і. Але я зусім Вас не ведаю.

В а р в о л ь. Тым лепш. Гэта значыць, што Вы нічога благога пра мяне сказаць не можаце.

В а л ь к і р ы я. Вы мяне бянтэжыце...

В а р в о л ь. Паслухайце, я якраз збіраўся пачаць новую карціну. Вы не пагадзіліся б пазіраваць мне? У Вас такія чароўныя смарагдавыя вочы. Яны нагадваюць мне вочы адной жанчыны, якая назаўсёды застанецца ў маёй памяці.

В а л ь к і р ы я. Я ўсім кагосьці нагадваю — то маці, то сястру, то палюбоўніцу. Ды справа не ў гэтым. Мне здаецца, Вы — даволі цікавы чалавек. Бадай, я магла б застацца тут на некаторы час і нават пазіраваць Вам. У рэшце рэшт, сысці адсюль я заўсёды паспею.

В а р в о л ь Вы пачынаеце падабацца мне ўсё больш.

Валькірыя (здымаючы капялюш і адкідваючы яго ўбок). Вырашана! Я застаюся.

В а р в о л ь. Вось дык добра! Я ведаў, што яны да мяне павінны былі кагосьці прывесці. Прывялі Вас, мая шаноўная пані, тым лепей, тым лепей...

В а л ь к і р ы я. Яны? Хто гэта?

В а р в о л ь. Вам неабавязкова ведаць.

В а л ь к і р ы я. Суцэльная таямнічасць. І Вы, і Ваша месца жыхарства (аглядваючы інтэр’ер і час ад часу пазіраючы на Варволя). Столькі цікавых рэчаў. Мальберт, фарбы, кнігі. Дарэчы, Вы заўсёды трымаеце дзверы расчыненымі?

В а р в о л ь. Так. Ад каго мне зачыняцца? Я павінен быць падрыхтаваны да таго, што да мяне могуць завітаць у кожны момант.

В а л ь к і р ы я. І нават ноччу?

В а р в о л ь. Ноччу асабліва,

В а л ь к і р ы я. У Вас так шмат сяброў?

В а р в о л ь. Не. Фактычна зусім няма.

В а л ь к і р ы я. Дык хто ж Вашыя госці?

В а р в о л ь. Здані.

В а л ь к і р ы я. Вы — або адзінокі фантазёр, або вар'ят.

В а р в о л ь. Я не псіх, але ў пэўнай ступені я — ненармальны.

В а л ь к і р ы я. Пакіньце так жартаваць, інакш я зусім разгублюся. Не ведаю нават, што пра Вас і падумаць.

В а р в о л ь. Я раю Вам не думаць, а ўспрымаць.

В а л ь к і р ы я. Ну, добра. А калі ў Вашу кватэру залезуць рабаўнікі?

В а р в о л ь. Гут няма на што паквапіцца. Лісты паперы, спісаныя вершамі, старыя кнігі, якія, апроч мяне наўрад ці хто будзе чытаць. Мае карціны і малюнкі, якіх амаль ніхто не купляе. Вялікіх грошай я не трымаю, а ўсе каштоўнасці — яны заўсёды са мной, куды б я не пайшоў.

В а л ь к і р ы я. На якія ж сродкі Вы існуеце?

В а р в о л ь. Бацька пакінуў мне кавалак зямлі, Я атрымоўваю даход ад рэнты. Гэта дазваляе мне не памерці з голаду. Часам удаецца прадаць якуюсьці карціну.

В а л ь к і р ы я. Вы жывеце зусім адзін? У Вас няма сямЧ?

В а р в о л ь. Не. Навошта яна мне?

В а л ь к і р ы я. Як навошта? Вы яшчэ досыць малады, аднак, хіба вы не сустракалі такую жанчыну, побач з якой хацелася б правесці ўсё жыццё? Хіба Вам ніколі не хацелася мець дзяцей?

В а р в о л ь. Мілая мая пані! Усё гэта са мной было, і не раз. Але адзіная жанчына, якая стала для мяне эталонам — мая маці. А Вы чамусьці здаецеся мне вельмі падобнай да яе. (Паўза). Дзяўчыны, жанчыны... Калі я яшчэ вучыўся ў каледжы, яны вабілі мяне, як агонь матылька. Я не прапускаў аніводнай спадніцы. Хоць і была адна дзяўчына, якая... рэшты, якое гэта цяпер мае значэнне? У мяне было^.. бурлівае юнацтва, Я насіў імідж Казановы, і кожная дзяўчына, калі б я толькі пажадаў, магла стаць маёй. Але час ішоў, і я пачаў адкрываць для сябе больш цікавыя сферы дзейнасці. Я канчаткова вырашыў прысвяціць сябе Мастацтву і стаць на шлях Спазнання. Пасля таго, як мяне выгналі з каледжа, я шмат вандраваў па краіне, пісаў карціны, рабіў для сябе ўсё новыя і новыя незвычайныя адкрыцці. Нарэшце мяне занесла ў гэты горад, Але, напэўна, і тут я доўга не затрымаюся, бо не магу ўвесь час знаходзіцца на адным месцы.

В а л ь к і р ы я. Няўжо сярод усіх Вашых дзяўчын не было той, у якую Вы былі па-сапраўднаму закаханым?

Варволь. Я кахаў іх усіх і разам з тым не кахаў ніводнай. Амаль усе яны, за выключэннем адной, былі звычайнымі і марылі аб звычайных рэчах — займець сям'ю, мужа (пажадана багатага), нарадзіць дзяцей, уладкавацца на добрую працу або не працаваць зусім, а толькі даглядаць дзяцей і траціць грошы. На мае заняткі жывапісам усе яны глядзелі, як на дзівацтва, якое павінна некалі скончыцца. Яны мне хутка надакучвалі. А мне патрэбна была жанчына, неабыякавая да

мастацтва, і з якой можна было б гутарыць, разумееце, гутарыць, а не проста балбатаць і спаць у ложку. Што ж датычыць дзяцей, то па-першае, я іх не люблю. Хутчэй яны мяне раздражняюць. Па-другое, гледзячы на малое немаўля, я пачынаю міжволі разважаць: "Зараз гэта чароўнае дзіця з чыстым, незатлумленым успрыманнем свету. А кім яно стане гадоў праз дзесяць, дваццаць, трыццаць? Што з яго зробіць нашае грамадства? Чарговага н а р м а л ь н а г а чалавека або маньяка-забойцу? Белую варону або хлуслівага прыстасаванца? Ды ўвогуле, ці маю я права навязваць маленькаму чалавечку сваё ўспрыманне свету? Убіваць яму ў галаву, што белае з'яўляецца белым, а чорнае — чорным, што дрэва — гэта дрэва, а тое, што мы называем ценем, — усяго толькі цень і нічога больш. Я не хачу жыць так, як усе. Калі я буду выхоўваць дзіця так, як лічу патрэбным, яно будзе ізгоем.А займацца выхаваннем па агульнапрынятых мерках я не магу, бо не прымаю гэтага. Апроч усяго, існуе яшчэ шэраг розных прычын, па якіх я не маю сям'і. Я складаны чалавек, на маім ілбе можна ставіць кляймо "творчая асоба" — і ўсё будзе зразумела. Я — рыба, якая на злосць усім плыве супраць плыні, часам трапляе ў нерат, і, тым не менш, заўсёды вызваляецца адтуль. Я займаюся не толькі мастацтвам, мой асноўны занятак... Зрэшты, лепей Вам пра гэта не казаць. Усё роўна не зразумееце.

В а л ь к і р ы я. Вы мяне зусім заінтрыгавалі *(падыходзячы да стоса кніг і пачынаючы праглядаць іх).* Наша выпадковая сустрэча вельмі дзіўная, Вы не знаходзіце?

В а р в о л ь. Выпадковасцяў не існуе.

В а л ь к і р ы я. Скажы мне, якія кнігі ты чытаеш, і я скажу, хто ты. Вы захапляецеся філасофіяй?

Варволь. Ад жанчыны наогул пачуць што-небудзь разумнае ўдаецца рэдка.

В а л ь к і р ы я. Вы не любіце жанчын?

В а р в о л ь. Я іх люблю нават занадта, таму і стараюся трымацца ад іх падалей, каб не пакрыўдзіць. Магу сказаць, што я і Вас люблю. Вы вельмі прыгожая, амаль як мая маці. Дарэчы, чаму б не пачаць Ваш патрэт менавіта зараз. Сядайце сюды (*усаджвае яе на канапу*). Вось так. Але папярэджваю — у выніку Вы атрымаецеся зусім не такой, якой прывыклі сябе бачыць, ( *Пачынае падрыхтоўваць мальберт і фарбы).*

В а л ь к і р ы я. Вы да гэтага часу мне так і не прадставіліся.

В а р в о л ь. О, то даруйце! Ваш пакорны служка Варволь (*робіць рэверанс* ).

В а л ь к і р ы я (*папраўляючы валасы*). А я — Валькірыя, акторка драматычнага тэатра.

В а р в о л ь (*беручы аловак і пачынаючы малюнак на лісце*). Акторка? Акторка. І якія акты Вам больш даспадобы?

В а л ь к і р ы я (*збянтэжана*). Што Вы маеце на ўвазе?

В а р в о л ь. Вы мне падабаецеся. Прызнайцеся, калі б я Вам не падабаўся таксама, Вы б тут не засталіся.

В а л ь к і р ы я (*жадаючы змяніць тэму*). Раскажыце лепей пра сваю маці. Вы пра яе часта згадваеце.

В а р в о л ь, Што расказваць? Я зваў яе проста мамай. Яна рана памерла. Яна была прыкладна такога ж росту і мела такую ж фігуру, як Вы. Нават дзіўна. да чаго Вы мне яе нагадваеце.

В а л ь к і р ы я. Мне ў дзяцінстве ўсе казалі, што я вельмі падобная да маці. Кажуць, калі дзяўчына падобная на бацьку, яна будзе шчаслівай, а калі на маці — дык не.

В а р в о л ь. Лухта.

В а л ь к і р ы я. Але ж гэта так. Я сапраўды вельмі няшчасная.

В а р в о л ь. Значыць, Вам так хочацца быць няшчаснай.

В а л ь к і р ы я. Не, не, што Вы... Кожны хоча быць шчаслівым.

В а р в о л ь. Дык у чым жа справа?

В а л ь к і р ы я (*крыху памаўчаўшы*). Справа ў тым, што жыццё ў мяне не ладзіцца. У тэатры я занятая ў масоўках ці ў дробных ролях. Каб атрымаць галоўную ролю, трэба быць сцервай або патаскушкай, якая час ад часу спіць з рэжысёрам. Талент у нашым тэатры рэдка прымаюць у разлік. Але ж я не магу так, і тым не менш мару аб сапраўднай вядучай ролі у якім-небудзь добрым спектаклі. Уявіце сабе залу, усю запоўненую людзьмі, мора кветак і апладысментаў, крыкі "брава" ў мой бок...

В а р в о л ь. Вам так патрэбна слава? Навошта яна Вам?

В а л ь к і р ы я. Але ж да гэтага імкнецца кожны акцёр. Не столькі слава мне патрэбна, сколькі прызнанне. Я хачу ўсім даказаць на што я здольная.

В а р в о л ь. Вы ведаеце свае здольнасці, навошта яшчэ запэўніваць кожнага ў тым, што яны ў Вас маюцца? Гэта тое ж самае, што даказваць лішні раз сабе самому сваю правату. Я выбраў сабе шлях і іду па ім, а прызнаюць мяне ці не -— мне ўсё роўна. Увогуле, чаму Вы такое значэнне надаеце грамадскай думцы? "Segui ii tuo corso, a lasia dir le genti", — сказаў вялікі Дантэ. Ідзі сваёй дарогай, і няхай людзі кажуць, што хочуць. Заўважце, калі хтосьці пачне

казаць, што ў Вас блакітныя вочы, яны ж ад гэтага блакітнымі не зробяцца, а застануцца такога ж чароўнага колеру марской вады...

В а л ь к і р ы я. Усё гэта так, але ж мне хацелася б мець хоць нейкую падтрымку, і каб мяне разумелі.

В а р в о л ь. Пакіньце дарэмныя намаганні. Чалавек змушаны быць адзін. Канчатковага разумення, асабліва ў мастацтве, дабіцца немагчыма. Навучыцеся любіць адзіноту. Толькі ў ёй зарыта карэнне волі.

В а л ь к і р ы я. Адзінота — гэта жахліва. Я хацела, каб побач са мной быў каханы чалавек...

Варволь, І што?

В а л ь кі р ы я (*сумна*). У мяне быў муж. Я яго вельмі кахала. Але ён быў банкірам, цэлыя дні праводзіў на рабоце і нават у ложку не пакідаў думак аб сваім бізнесе. Да таго ж ён здраджваў мне на кожным кроку. Я не раўнівая, я ўсё яму даравала. Але ён патрабаваў ад мяне вернасці, як ад сабакі. Хацеў, каб я пакінула тэатр (гэтае глупства, як ён казаў) і зрабілася пакорлівай хатняй гаспадыняй (узнімаецца з канапы, узбуджана). Ён ва ўсім быў такі халодны, прагматычны (пачынае хадзіць псі пакоі размеранымі крокамі). Траціў грошы на падарункі сваім палюбоўніцам, а мне нават забыў прывезці кветкі на дзень нараджэння — маўляў, за гэтымі справамі забудзеш аба ўсім на свеце... Ён ставіўся да мяне як да сваёй вечнай уласнасці." Ты павінна, табе неабходна, ты абавязана..." — любімыя ягоныя словы. Ён адменна граў ролю суддзі і пана ў адной асобе. Доўга так працягвацца не магло. З цягам часу яго асабісты рахунак у банку ўсё больш павялічваўся, а мае пачуцці да яго ўсё больш затухалі, пакуль не згаслі зусім (спыняецца пасярод пакою). Урэшце мы развяліся. Пасля яго ў мяне было шмат розных мужчын, але ўсім ім было штосьці ад мяне патрэбна: мае цела, мае знаёмствы, нават мае рэчы, толькі не я сама. Я шукала кахання, а замест яго атрымлівала нябачныя аплявухі ад жыцця. Мяне столькі разоў падманвалі, што здаецца, калі мне схлусяць яшчэ раз, я не вытрымаю. Я бясконца запэўніваю сябе ў тым, што лепшае наперадзе, што я яшчэ сустрэну сваё шчасце, але ідзе час, а яго ўсё няма і няма, і дзе яго шукаць і ці варта гэта рабіць увогуле — я не ведаю... (*разгублена глядзіць на Варволя*).

В а р в о л ь (хітра прыжмурыўшы вока). Калі б я захацеў, то, відаць, змог бы пабачыць Вас наскрозь. Не сумуйце, мая чараўніца! (*падміргвае ёй*). Смутак можа Вас многаму навучыць, але ён не дасць Вам крылы для налёту.

В а л ь к і р ы я. І праўда. Крылы мне дае творчасць і каханне. Але ў апошні час мае крылы становяцца ўсё больш слабымі, і хутка ўжо, мабыць, як параненая птушка, упаду на зямлю...

В а р в о л ь. Гэта значыць, што Вы слабая, як і ўсе людзі. У Вас мала асабістай сілы. Ды ўвогуле, што Вы ведаеце аб сіле?

В а л ь к і р ы я. Аб якой сіле Вы кажаце: аб фізічнай або духоўнай?

В а р в о л ь (*спыніўшы маляваннё*), Я кажу аб той неверагоднай сіле, якая прымушае чалавека пераступаць цераз самога сябе, выяўляць дагэтуль невядомыя здольнасці, бачыць нябачнае і ўспрымаць тое, што не ўспрымаецца на паўсядзённым узроўні свядомасці. Я кажу аб той сіле, якая робіць чалавека вольным і дае яму магчымасць здзяйсняць дзівосныя ўчынкі. Тая сіла, што прымушае цябе перамагаць у той час, калі розум крычыць аб тваім паражэнні. Гэта хутчэй голас цела, чым розуму (падыходзіць да яе), Вашае цела лепей ведае, што Вам неабходна. Вы яшчэ не паспелі падумаць аб чымсьці, а Вашае цела ўжо выдала Вас і зрабіла рух у той бок, аб чым Вы падумалі. Я магу зараз амаль дакладна сказаць аб чым Вы думаеце, аднак, я больш люблю дзейнічаць, чым разводзіць балбатню (абдымае яе і цалуе).

В а л ь к і р ы я (*сумеўшыся адыходзіць*). Лепей Вы... працягвайце маляваць (*паказвае рукой на мальберт*).

В а р в о л ь (*паківаўшы галавой*). Так, так. Вы, як і ўсе, залішне давярс.еце свайму розуму і так званаму сумленню.

В а л ь к і р ы я. А што ж прыкажаце мне рабіць — вешацца Вам на шыю?

В а р в о л ь (*усміхаючыся).* А чаму б і не?

Валькірыя нахмурыўшыся, сядае.

В а р в о л ь. Прызнайцеся, Вам хацелася не толькі гэтага, а нават нечага большага.

В а л ь к і р ы я (*абурана*). Не!

В а р в о л ь. Тое, што вы абураецеся, лішні раз даказвае маю праваты.

В а л ь к і р ы я. З Вамі немагчыма спрачацца.

В а р в о л ь. Магчыма, але навошта? Я толькі ўказаў Вам на стоеную існасць Вашых памкненняў, а Вы ўжо пакрыўдзіліся,

В а л ь к і р ы я (*адвёўшы галаву ўбок*). Нічога я не крыўдую.

В а р в о л ь (*беручы аловак*). Мае словы закранулі Вашу ганарлівасць (*пачынае маляваць*). У які ўжо раз пераконваюся ў тым, што людзі не здольныя ўспрымаць праўду. Чалавечы свет напоўнены парадоксам!. Усе шукаюць праўду, а на самай справе нікому яна не

патрэбна. ЛюДзі проста не ў стане яе вытрымаць, бо не маюць на гэта сілы. Людзі вельмі слабыя, і паўсюль стараюцца знайсці апраўданне сваім слабасцям. І чаго толькі не напрыдумваюць, каб толькі замацаваць пачуццё ўласнай значнасці. Чалавек! (з'едліва). Гэта гучыць горда. А мне часам становіцца прыкра ад таго, што я чалавек. З Вамі такога не бывае?

В а л ь к і р ы я напружана маўчыць.

В а р в о л ь (*адкладваючы аловак і ўсё больш распаляючыся*). Мы нацягваем на сябе абалонку праведнасці, падпарадкоўваемся маральным догмам, а ўнутры ўсё кіпіць ад шалёных жаданняў, якія, нібы вулканічная лава, імкнуцца выйсці вонкі. Аднак, мы лупцуем іх пугамі аскетызму а стараемся знішчыць. Ці ж не глупства? Мы ўсе наскрозь прапітаныя манай. Ад гэтага нікуды не падзецца. Жывеш у грамадстве — будзь такім, як усе. А калі ты пачынаеш чымсьці вылучацца, цябе абавязкова заплююць і задратуюць. Хто не з намі, той супраць нас вось яна мараль натоўпу. А да чаго імкнецца большасць людзей, якія ў іх каштоўнасці? Грошы, слава, размеранае жыццё... Ха! (паўза). Што ж, калі я не магу змяніць грамадства, дык, прынамсі, ніхто не забароніць мне смяяцца з яго. Большасць людзей — гэта "зомбі", якія не размаўляюць, а балбочуць, не мысляць, а толькі выказваюць распаўсюджаныя меркаванні. О, гэтая большасць! Яна ніколі не будзе мець рацыі. Нехта добра сказаў: "Зямля населена людзьмі, якія не заслугоўваюць нават таго, каб з імі размаўлялі". Людзей перш-наперш хвалюе, як купіць тую ці іншую рэч, куды ўладкаваць дзіця, да чаго нас вядзе палітыка ўрада... Яны надаюць увагу такім дробязям і забываюць аб галоўным. Ат, што тут казаць! Словы, словы... Яны, па-сутнасці, толькі пратэзы думак, а думкі ў сваю чаргу — цені адчуванняў. Хто можа з упэўненасцю сцвярджаць, што ён навучыўся слухаць свае адчуванні?.. Мы жывем у тлумным свеце і ўспрымаем гэты тлум, як ісціну. Што тут зробіш... Людзі — яны ўсяго толькі людзі і не больш (*звяртаючыся да Валькірыі).* Даруйце мне за ўсё, што я тут нагаварыў (*бярэ аловак і зноў пачынае маляваць).*

В а л ь к і р ы я (*крыху памаўчаўшы*). Ну, а душа?

В а р в о л ь. Што душа?

В а л ь к і р ы я. Вы не верыце ў тое, што яна існуе. Для Вас галоўнае— цела.

В а р в о л ь (*горка ўсміхаючыся*). Душа звычайна атаясамліваецца са свядомасцю. А свядомасць нельга блытаць з духам.

В а л ь к і р ы я. Тады што такое дух?

В а р в о л ь. Паслухайце, навошта Вам гэта ведаць? Няўжо вы цікавіцеся такімі рэчамі?

В а л ь к і р ы я. Да апошняга часу я асабліва не звяртала на гэта ўвагі, але наша з Вамі размова прымушае мяне задумацца...

Варволь. Вам гэта не патрэбна.

В а л ь к і р ы я. Адкуль Вы ведаеце?

Варволь. Не палічыце мяне залішне самаўпэўненым, але я ведаю аб Вас, магчыма больш, чым Вы самі.

В а л ь к і р ы я. Вы — экстрасэнс?

В а р в о л ь (*са смехам*) Не, я экстрасекс (*паўза)*. Не імкніцеся прыляпіць да мяне нейкую этыкетку — усе яны будуць непадыходзячымі.

В а л ь к і р ы я (са скрухай). Вы, відаць, мяркуеце, што я — глупенькая жанчына, якая па ўзроўню інтэлекту стаіць на парадак ніжэй за Вас.

В а р в о л ь. Зусім не. Вы не дурніца. І справа тут не ў інтэлекце. Проста Вы — гэта Вы, а я — гэта я. Я не лічу сябе вышэйшым за астатніх, але я не хачу быць разам з імі. Мне проста нецікава тое, што цікава ім. Вось і ўсё.

В а л ь к і р ы я. Вы лічыце сябе моцным чалавекам?

В а р в о л ь. А як лічыце Вы?

В а л ь к і р ы я. Калі я толькі пабачыла Вас, мне падалося, што ад вас зыходзіць нейкая магічная сіла, нешта такое, што цяжка выказаць словам.

В а р в о л ь. Вам не падалося. Так яно і ёсць.

В а л ь к і р ы я. Дык што ж гэта такое?

В а р в о л ь. Магчыма, гэта мая воля, якая ірвецца навырунак.

В а л ь к і р ы я. А што яе стрымлівае?

В а р в о л ь. Розум. Усе беды ад розуму.

Вечарэе. За акном — сутонне. Чуюцца гукі дажджу. Грыміць навальніца. Варволь спыняе маляванне, падыходзіць да акна і шырока расчыняе яго. Пэўны час абодва маўчаць.
Валькірыя (гледзячы ў бок акна). Пачаўся дождж.

В а р в о л ь не адказвае і працягвае стаяць ля акна. Гучныя раскаты навальніцы,

В а л ь к і р ы я (*узнімаючыся*). Якая навальніца!

В а р в о л ь. Гэта знак.

В а л ь к і ры я. Знак чаго?

В а р в о л ь. Таго, што павінна адбыцца нешта важнае.

В а л ь к і р ы я. Паміж намі?
В а р в о л ь. Паміж намі таксама.

Паўза

В а р в о л ь. Вы любіце дождж, В а л ь к і р ы я?
В а л ь к і р ы я. Не, я больш люблю сонечнае надвор'е. Дождж наганяе самоту і санлівасць.
В а р в о л ь. Так. Але ж гэты дождж незвычайны. Гэта летні лівень з навальніцай — мае любімае надвор'е. Што б Вы адказалі мне, калі б прапанаваў Вам пабегаць па вуліцы басаног над гэтым ліўнем.
В а л ь к і р ы я. Што Вы — дзівак.
Ва р в о л ь (*рэзка абарочваецца*). А Вы хіба не?
В а л ь к і р ы я. Я б не стала гуляць гіад ліўнем — можна прастудзіцца.
В а р в о л ь (у*сміхаючыся*). Гэта сцвярджае Ваш розум. А калі прыслухацца да голасу сэрца?
В а л ь к і р ы я (*сцішана*). Яно маўчыць.
В а р во л ь. Не кажыце глупства. Больш за ўсё не люблю, калі людзі кажуць глупства. Вы проста баіцеся даць волю Ва-' шым адчуванням.
В а л ь к і р ы я. Не, не тое. Што падумаюць людзі, калі ўбачаць?
В а р в о л ь (*злосна*). А-а! Ізноў старое. Вас вельмі ўжо хвалюе, што падумаюць людзі. А што думаеце Вы самі?
В а л ь к і р ы я. Што гэта неяк па-дзіцячы...
В а р в о л ь. А хіба Вам не хочацца вярнуцца ў дзяцінства?
В а л ь к і р ы я. Усё праходзіць, і нельга аднавіць тое, што было.
В а р в о л ь. У рэчаіснасці нельга, ва ўяўленні можна. Уявіце сябе маленькай дзяўчынкай, такой, як Аліса ў казцы Кэрала. Вы.маеце шанц патрапіць у дзівосную краіну (падыходзіць да яе). Няўжо вы адмовіцеся?
В а л ь к і ры я. Не, але ж гэта ілюзія.
В а р в о л ь. Ілюзія — усё тое, што мы прывыклі бачыць вакол сябе.
В а л ь к і р ы я. Значыць, па-Вашаму, і гэтае акно, і навальніца, і я, і Вы самі — усё ілюзія? Увесь Сусвет — адна суцэльная ілюзія?
В а р в о л ь. Хутчэй іх сукупнасць. Сусвет — гэта карціна, якая ствараецца нашым уяўленнем. І ў той жа час можна сказаць, што

карціна, над якой я працую цяпер — Ваш партрэт, — ён змяшчае ў сабе цэлы Сусвет.

В а л ь к і р ы я (*спыняючыся ля акна*). Вы — вар'ят.

В а р в о л ь. Усе творчыя людзі ў пэўнай ступені вар'яты. Я можа толькі крыху больш ненармальны, чым Вы.

В а л ь к і р ы я. Я зусім заблыталася: то вы кажаце аб тым, што Вашымі гасцямі з'яўляюцца здані, то аб тым, што ўвесь свет — гэта ілюзія. Мне складана прыняць усё гэта на веру.

В а р в о л ь. Што ж Вас бянтэжыць? Здані? Вы іх ніколі не бачылі? Дык яшчэ пабачыце, абяцаю Вам.

В а л ь к і р ы я (*спалохана*). Можа, Вы — гіпнатызёр або злы чарадзей? Вы дзейнічаеце на мяне дзіўным чынам.

В а р в о л ь. Гэта не я на Вас дзейнічаю, а Вы самі. Я толькі абуджаю ў вас тое, што да гэтага часу не жадала прачынацца.

В а л ь к і р ы я. А навошта Вы гэта робіце?

В а р в о л ь. Каб дапамагчы Вам выпаўзці з той ракавіны, у якой Вы зачыніліся ад Сусвету (пауза).

В а л ь к і р ы я (*стомленым голасам*), Ужо позна.

В а р в о л ь. Я Вам надакучыў?

В а л ь к і р ы я. Зусім не. Вашыя разважанні вельмі цікавыя. А ці можна мне зірнуць на партрэт?

В а р в о л ь. Лепш не варта. Я не люблю паказваць няскончаныя творы,

В а л ь к і р ы я. Ну, як скажаце. Вам лепей ведаць (сядае на канапу).

В а р в о л ь. Вы стаміліся?

В а л ь к і р ы я. Дзень быў складаны.

В а р в о л ь. Але наперадзе ноч.

В а л ь к і р ы я (*пазяхаючы).* Ноччу трэба адпачываць.

В а р в о л ь. Няхай ноччу адпачываюць слабыя і стомленыя. Ноч — дзівосны час, калі мяне звычайна наведвае шмат гасцей.

В а л ь к і р ы я(*з іроніяй*). Прывіды?

В а р в о л ь. Вы дарэмна мне не верыце.

В а л ь к і р ы я. Я не магу паверыць у неіснуючае.

В а р в о л ь. Ха! Усё, што не паддаецца разуменню, належыць да сферы фантастыкі і містыкі, так? А калі б Вы спынілі бясконцы аналіз таго, што адбываецца, і прыслухаліся б да таго, што нам распавядае Сусвет...

В а л ь к і р ы я. І што б я пачула?

В а р в о л ь. Музыку.

Абодва маўчаць. В а л ь к і р ы я пачынае прыслухоўвацца. Чуюцца гукі далёкай музыкі

В а л ь к і р ы я (*са здзіўленнем*). І сапраўды — музыка. Як дзіўна!

В а р в о л ь. Вы чуеце? Дазвольце мне запрасіць вас на танец (*падае ёй руку*).

В а л ь к і р ы я ўзнімаецца з канапы. Яны пачынаюць танцаваць. Дождж заканчваецца. Музыка паступова сціхае.

В а л ь к і р ы я. Становіцца холадна. Зачыніце, калі ласка, акно.

В а р в о л ь зачыняе акно і спыняецца ля яго.

В а л ь к і р ы я (*згадваючы*). Калі я была маленькай, я думала, што ўсе рэчы, якія мяне акружаюць, — жывыя. Мне здавалася, што з імі павінна адбывацца тое ж, што і з людзьмі. Што ім таксама ўласціва нараджэнне, каханне, барацьба, смерць. Я часта, гуляючы ў маім любімым скверыку, размаўляла з ветрам, снегам або дажджом. І яны адказвалі мне нячутным шэптам. Я раілася з імі, як з жывымі людзьмі, як з сапраўднымі сябрамі. А восенню, калі пажоўклая лістота засцілала стары парк сваёй коўдрай, я хадзіла туды і збірала рознакаляровыя лісты ў адзін велічэзны букет. Мне было крыўдна, калі хтосьці з людзей крочыў без усялякага шкадавання па гэтых лісціках. Я нібыта адчувала, як ім павінна быць балюча ад таго, што нехта сваімі цяжкімі ботамі топча іх кволую прыгажосць. Шорах лістоты здаваўся мне прыглушаным стогнам.

В а р в о л ь. Тады вы былі больш разумнейшай, чым цяпер.

В а л ь к і р ы я. Чаму?

В а р в о л ь, Таму, што ваша ўспрыманне свету было толькі Вашым. Ніхто яшчэ не паспеў запэўніць Вас у тым, што існуе аб'ектыўная рэальнасць, згодна з якой пажоўклае лісце не можа быць жывым, Прынята лічыць, што яно мёртвае, значыць, так павінны думаць і Вы.

В а л ь к і р ы я, У мяне часам з'яўляецца такое адчуванне, быццам бы я здрадзіла той, сапраўднай сабе, і ператварылася ў шаблонную марыянетку.

В а р в о л ь. Вось бачыце

В а л ь к і р ы я. Але ж кажуць: ісціна адна. У чым жа яна заключаецца?

В а р в о л ь. Так кажуць толькі фанатыкі і дурні. Свет дуалістычны. У ім усё адносна. Я Вам раскажу такі выпадак. Неяк я з былымі сябрамі сядзеў у кампаніі ł адзначаў чыйсьці дзень нараджэння. Я глядзеў на цень ад лямпы, што падаў на сцяну, і

спытаў у сяброў: "На што гэта можа быць падобна?" Адзін адказаў: "На галаву ў капялюшы". Другі палічыў, што гэта пугач, які ляціць з распасцертымі крыламі. Тады я зазначыў: "Кожны з вас угледзеў у гэтай фігуры нешта сваё, значыць, яна з'яўляецца адначасова і тым, і другім. А чаму б нам увогуле не ўявіць, што гэта — не проста цень, а сама сцяна пафарбавана такім чынам?" Тады мае сябры засмяяліся і параілі мне не займацца такімі развагамі.

В а л ь к і р ы я. Вас не разумелі?

В а р в о л ь. Проста ім гэта было нецікава і непатрэбна. Я не бяруся судзіць іх, як не бяруся дакладна сцвярджаць правільнасць сваіх меркаванняў. Я выбраў для сябе шлях Спазнання і іду па ім, а ўсё астатняе — разуменне і таму падобнае — мяне не хвалюе.

В а л ь к і р ы я. Але, напэўна, Вам складана аднаму ісці па гэтым шляху?

В а р в о л ь. Кожнаму, хто выбірае для сябе гэтую дарогу, прыходзіцца нялёгка. Можна скончыць вельмі блага.

В а л ь к і р ы я . Тады навошта Вы гэтым займаецеся?

В а р в о л ь. Я не магу дакладна растлумачыць, якая карысць чалавеку ад таго, што ён зрабіў такі выбар. Ты ўсведамляеш, што табе гэта патрэбна — і ўсё тут. Тое ж самае, як і складаць вершы, ствараць музыку, пісаць карціны... Гэта не проста гульня на публіку, а ўнутраная неабходнасць, памкненне волі, разумееце? І гэта дадзена далёка не кожнаму, інакш, уся наша планета была б заселена талентамі ды геніямі. На жаль, часцей за ўсё прыходзіцца сустракацца з пасрэднасцю і шэрасцю (*пауза*). Час ідзе, а чалавек застаецца тым, кім ён быў. Каб змяніць свет, патрэбен новы чалавек. А для яго ўзнікнення не абысціся без нейкіх страшэнных катаклізмаў і пераўтварэнняў. Перш за ўсё варта змяніць свядомасць і спосаб ўспрымання свету, трэба спыніць бясконцае імкненне тлумачыць сабе тое, што адбываецца, і нарэшце паверыць у то, што ў свеце ёсць рэчы, зразумець якія мы проста няздольныя, мы можам толькі адчуць іх.

В а л ь к і р ы я. Як я разумею, каб узвысіцца, трэба спачатку і пусціцца да жывёльных страсцей.

В а р в о л ь. Менавіта так. Тады Вы зможаце вызначыць, што ёсць жывёльнае, а што людское. Зрэшты, людзі ад жывёл не так далёка пайшлі.

В а л ь к і р ы я. Вы пагарджаеце розумам, заклікаючы да культу пачуццяў.

В а р в о л ь. Не, я не імкнуўся ствараць з чагосьці культ. Ісціна, узведзеная ў абсалют, перастае быць ісцінай. Я толькі спрабую спыніць шалёны бег думак...

В а л ь к і р ы я. І што тады?

В а р в о л ь. ...І спыняю свет. Я руйную звыклы свет і пачынаю бачыць неспасцігальнае. Як бы Вам растлумачыць?.. Гэта ўсё роўна, што гледзячы на папярэднюю грань шматгранніка адначасова бачыць і заднюю.

В а л ь к і р ы я. Руйнаванне свету — гэта і ёсць Ваш асноўны занятак?

В а р в о л ь. Не пытайцеся аб тым, што відавочна. Я і так ужо шмат Вам расказаў, хоць, мабыць, і не меў на тое права.

*Паўза*

В а л ь к і р ы я. Стала зусім цёмна... і страшна.

В а р в о л ь (*накіроўваючыся да люстэрка*). Страх — наш першы вораг. Але Вы не палохайцеся. Зараз я запалю свечку.

В а л ь к і р ы я. Вы не карыстаецеся электрычным святлом?

В а р в о л ь Не, яно раздражняе вочы. Да таго ж паліць свечкі — гэта так рамантычна... (бярэ свечку, запальвае і ставіць на столік).

В а л ь к і р ы я, Цяпер нібыта і пацяплела (сядае). В а р в о л ь. А чаму б нам не закаціць вечарыну? Хутка ж павінны прыйсці госці (шукав нешта ў шафе, нарэшце дастае бутэльку і два кілішка).

В а л ь к і р ы я (зацікаўленсі). Што гэта? Каньяк?

В а р в о л ь. Не, настойка з траваў. Я сам гатаваў. Вам спадабаецца (разлівае настойку і садзіцца ля В а л ь к ір ы і на падлогу),

В а л ь к і р ы я (крыху павесялеўшы). І за што мы будзем піць?

В а р в о л ь. За што хочаце — мне ўсё роўна, Я не люблю казаць тосты.

В а л ь к і р ы я. Ну, тады скажу я. За нашу сустрэчу і за Вас — самага незвычайнага чалавека з усіх, каго я калі-небудзь суст- ракала! Чокаюцца і выпіваюць.

В а л ь к і р ы я. Смачна. З якіх траваў Вы гатуеце гэтую настойку?

В а р в о л ь. А гэта — сакрэт.

В а л ь к і р ы я. Згадваецца, як аднойчы мы з сябрамі пайшлі ў кітайскі рэстаран. Найбольш уразіў усіх "вогненны напой". Я выпіла кілішак і амаль ператварылася ў дракона — усё ўнутры запалала (*усміхаецца*).

В а р в о л ь. Цікава. А я вось, уявіце сабе, ніколі не быў у рэстаране, толькі бары даволі часта наведваў — быў вялікім аматарам піва. Любіў таксама ўначы вылезці на дах і, седзячы ў цемры, глядзець на зоркі і цягнуць піва з бляшанкі.
Валькірыя. А цяпер?

В а р в о л ь, Цяпер бывае, што я ноччу сяджу на падаконніку і крычу: "Да-а-ах! Куды ты паехаў? Вярніся!" А рэдкія начныя прахожыя пачынаюць здзіўлена вышукваць у цемры таго, каму не спіцца.

В а л ь к і р ы я ўсміхаецца і з замілаваннем глядзіць на В а р в о л я.

В а р в о л ь. Вы хоць не шкадуеце, што засталіся, В а л ь к і р ы я?

В а л ь к і р ы я. Ні ў якім разе. Я рада

В а р в о л ь. Тады давайце вып'ем за тое, каб нам ніколі не даводзілася аб чымсьці шкадаваць!

Валькірыя згодна ківае. Яны зноў выпіваюць.

В а л ь к і р ы я. Аднак, я павінна заўважыць, што ў мяне нейкае няўцямнае пачуццё.

В а р в о л ь. У адносінах да чаго?

В а л ь к і р ы я. У адносінах да Вас.

В а р в о л ь. І што гэта за пачуццё?

В а л ь к і р ы я. Вы мне падабаецеся і адначасова Вы мяне бянтэжыце.

В а р в о л ь. Я здагадваўся.

В а л ь к і р ы я. Вы не такі, як усе, і гаму я не магу ставіцца да Вас, як да звычайных людзей.

В а р в о л ь. А Вы лепей стаўцеся да мяне, як да свайго сябра, добра? *(налівае ў кілішак*).

В а л ь к і р ы я (*усміхаючыся*). Добра. За сяброўства і... за каханне.

Выпіваюць. Удалечыні чуюцца незвычайныя гукі.

В а р в о л ь . Аа! Вось і нашы госці. А мы ўжо амаль усё выпілі.

В а л ь к і р ы я. Я нікога не бачу.

В а р в о л ь. Спыніце Вашыя думкі, аддайцеся на волю ўспрымання.

Паўза. Гукі мацнеюць.

В а л ь к і р ы я (*спалохана ўскоквае*). Варволь! Яны ўжо тут.

В а р в о л ь (*падыходзячы да В а л ь к і р ы і і абдымаючы яе*). Не хвалюйцеся, яны нічога кепскага Вам не зробяць. Вы іх бачыце?

В а л ь к і р ы я (*з жахам*). Бачу. Яны клічуць за сабой.

В а р в о л ь. Не слухайце іх. Толькі сачыце.

В а л ь к і р ы я абводзіць вачыма пакой і схіляе галаву на плячо В а р в о л я. Гукі пачынаюць сціхаць.

В а р в о л ь (*супакойваючы*). Яны ўжо адыходзяць.

Наступае поўная цішыня, В а л ь к і р ы я ўсхліпвае і нервова ўздрыгвае. В а р во л ь усаджвае яе і налівае настойку. Валькірыя залпам выпівае і з неразуменнем глядзіць на В а р в о л я.

В а л ь к і р ы я. Яны тут часта бываюць?

В а р в о л ь. Сёння яны ўжо не прыйдуць, супакойцеся.

Валькірыя (*усхліпваючыся*). А заўтра?

Варволь (*гледзячы кудысьці ўдалечыню*) Можа быць. Хто іх ведае?

В а л ь к і р ы я. Калі яны з'явіліся тут упершыню?

В а р в о л ь. Не ведаю дакладна. Відаць, раней на гэтым месцы, дзе цяпер стаіць дом, былі могілкі.

В а л ь к і р ы я з жахам уздрыгвае.

В а р в о л ь. Магчыма, Ваша сяброўка з'ехала адсюль таму, што ў адну цудоўную ноч да яе завіталі здані. Яна, канешне, палічыла гэта за галюцынацыю. Потым выпадак паўтарыўся. І яшчэ, і яшчэ... Нарэшце яна не вытрымала і вырашыла змяніць месца жыхарства. Хутчэй за ўсё так і было.

В а л ь к і р ы я. А дзе яны жывуць?

В а р в о л ь. Тут, але па-за сферай нашага звычайнага ўспрымання. Вы змаглі іх пабачыць, таму што спынілі мысленне. Зірніце на люстэрка. Верагодна, што яны выкарыстоўваюць яго ў якасці пераходу ў наш свет з іншай рэальнасці.

В а л ь к і р ы я ўстае і, крыху вагаючыся, падыходзіць да люстэрка. Пачынае пільна ўзірацца ў яго.

В а р в о л ь. Адыдзіце адтуль!

В а л ь к і р ы я. Чаму?

В а р в о л ь Яны могуць Вас зацягнуць да сябе.

В а л ь к і р ы я (*адыходзячы*). Дык вось чаму прынята завешваць люстры на ноч (*падыходзіць да акна*). Колькі цяпер часу?

В а р в о л ь. Ужо апоўнач мінула.

В а л ь к і р ы я. Як Вы вызначаеце час без гадзінніка?

В а р в о л ь. Яны прыходзяць заўсёды пасля апоўначы. Гэта самы небяспечны час — да трох гадзін раніцы. Вы зараз стаіце ля акна. Звярніце ўвагу: горад не такі, як днём. Увесь свет не такі, як днём, Ноччу ўсё набывае іншы змест.

В а л ь к і р ы я (*зірнуўшы ў акно і паравёўшы позірк на В ар в о ля*). Вы раскрылі мне вочы на многае. І ўсё ж як у Вас хапае моцы жыць такім чынам і да гэтага часу не звар'яцець ад жаху?

В а р в о л ь (*беручы свечку*). Я перамог жах і яснасць, а наскольні я вар'ят — не мне судзіць.

Пауза. Абодва глядзяць на свечку

В а р в о л ь. Прыгледзьцеся да гэтай свечкі. Яна дагарыць, і святло згасне. Гэтак жа і людзі — яны згараюць. 1 памяць аб іх паступова гасне. Але ж усе яны імкнуцца пакінуць пасля сябе след. І імкнуцца да гэтага так модна, што ўсё свае жыццё са скуры лезуць, толькі б заняць свае месца над сонцам. Аднак, калі чалавечая цывілізацыя некалі з"явілася, то калі-небудзь яна павінна і знікнуць, а разам з ёй і ўсё створанае людзьмі. Я не кажу пра канчатковае знікненне, я маю на ўвазе змяненне формы існавання, бо нічога не ўзнікае і не знікае ў прамым сэнсе — усё толькі трансфармуецца. І Вы зараз ужо не тая, што пяць хвілін таму. Вы змяніліся і разам з тым засталіся сабой.

Доўгая паўза. Варволь сядае на падлогу і ставіць перад сабой свечку. В а л ь к і р ы я сядае побач і пачынае ціха спяваць:

Як аднойчы цёмнай ноччу
Заблукалі юнакі.
Раптам гнуткі стан дзявочы
Ім з'явіўся ля ракі.

Першы крыкнуў: "Гэта ведзьма!
Пойдзем прэч адсюль хутчэй".
А другі хацеў разгледзець
Глыбіню яе вачэй.

Падышоў ён да русалкі,
Заварожаны красой,
А яна хлапчыну шпарка
Пацягнула за сабой.

І за тое, што паддаўся
Прыгажосці незямной,
Назаўсёды ён застаўся
Пад халоднаю вадой.

В а р в о л ь (*задуменна*). Якая сумная песня.

В а л ь к і р ы я. Яе спявала мая бабуля. Яна была вядзьмаркай і адным толькі позіркам магла скарыць чалавека сваёй волі.

В а р в о л ь (*абдымаючы Валькірыю за плечы*). Вы, мабыць, пераняли ад яе гэтую здольнасць (*пауза).*

Валькірыя схіляе галаву яму на плячо.

В а л ь к і р ы я. Свечка хутка згасне.

В а р в о л ь. Тады будзе свяціць поўня. Дарэчы, зараз самы вядзьмарскі час. І побач са мной — чарадзейка.

В а л ь к і р ы я. Пакіньце жартаваць.

В а р в о л ь. Жартаў тут ніякіх няма (*глядзіць на свечку).* Некалі я займаўся медытацыяй. Уяўляў запаленую свечку, выцягваў да яе руку і калі вяртаўся ў звычайны стан — на маёй руцэ быў сапраўдны апёк.

В а л ь к і р ы я. Як Вы думаеце, ёй балюча гарэць?

В а р в о л ь. Свечцы? Думаю, гэтак жа, як і чалавеку на вогнішчы інквізіцыі.

В а л ь к і р ы я. А Вы можаце сябе ўявіць на яе месцы?

В а р в о л ь. Чаму ж не? Магу.

В а л ь к і р ы я. А на маім месцы?

В а р в о л ь Гэтаксама.

В а л ь к і р ы я, Дык аб чым я зараз падумала?

Варволь не адказвае і моўчкі цалуе яе.

В а л ь к і р ы я (*какетлів*а). Вы здагадлівы.

В а р в о л ь (*усміхаючыся).* Безумоўна.

Глядзяць адзін аднаму ў вочы.

В а р в о л ь. У Вашым позірку хаваецца таямнічая прынада.на шкле

В а л ь к і р ы я. А Вашыя словы ахінаюць мяне спякотнай пяшчотай, і я пачынаю плавіцца, нібы гэтая васкавая свечка (паўза).

В а р во л ь. Вы любіце паэзію, В а л ь к і р ы я?

В а л ь к і р ы я. Вельмі. Калісьці я нават сама сачыняла невялічкія вершы.

В а р в о л ь. А ці ведаеце Вы верш аб нястрымным жаданні?..

В а л ь к і р ы я. Здаецца, я чула яго. Нагадайце пачатак...

В а р в о л ь узнімаецца з падлогі і пачынае чытаць.

В а р в о л ь

Поўня дурманам напоўніць
Сэрцы, схаваныя ў змроку.
Вецер павевам няўлоўным
Ложа пасцеліць з аблокаў.

В а л ь к і р ы я (*ўзнімаецца ўслед за ім і працягвае)*

Розум самлелы заплача
Кроплямі смутку ў паветры.
Кроў ад абдымкаў гарачых
Зноў разгуляецца ў нетрах.

В а р в о л ь

Мора сляпога жадання
Нас паглыне, быццам пашча.
Цела прасцяг да світання
Рукі не стомяцца лашчыць.

В а л ь к і р ы я

Ноч сарамлівасць загасіць
Тонкім крылом матыльковым.
Полымя ўспыхнуўшай страсці
Спаліць апошнія словы...

В а р в о л ь бярэ яе на рукі і нясе за кулісы. Зацямненне.

**Дзея другая**

Той жа пакой. З'яўляецца Варволь, падыходзіць да століка, налівае чарку, выпівае. Выходзіць В а л ь к і р ы я, пазяхаючы і зашпільваючы сукенку. Яна акідвае позіркам пакой і, заўважыўшы В а р в о л я, спыняецца.

В а л ь к і р ы я. Якая цудоўная ноч! А чаму ты збег ад мяне?

В а р в о л ь (*задуменна*). Мяне паклікалі.

В а л ь к і р ы я. Хто? Здані?

В а р в о л ь. Не, мае думкі.

Валькірыя (*падыходзячы да яго, кладзе рукі яму на плечы*). І аб чым ты думаеш?

В а р в о л ь (*абдымае яе*). Аб тым, што ты самая лепшая жанчына ў свеце.

В а л ь к і р ы я (*ціха ўсміхаецца*). А ты самы загадкавы мужчына.

Абодва сядаюць на канапу.

В а р в о л ь. Ты спала?

В а л ь к і р ы я. Так. І ведаеш, мне прысніўся вельмі дзіўны і даволі страшны сон.

В а р в о л ь. Раскажы мне.

В а л ь к і р ы я. Не ведаю, ці варта.

В а р в о л ь. Калі ўжо пачала, дык працягвай.

В а л ь к і р ы я. Ну, добра. Мне снілася, нібыта ўвесь калектыў нашага тэатра стаіць на доўгай звілістай лесвіцы. І кожны з нас апрануты ў чорнае адзенне, а ў мяне на галаве яшчэ і чорная павязка. Усе мы застылі ў нейкім чаканні, і тут з'яўляецца Смерць. Яна з касой у руцэ і доўгімі пасмамі валасоў, але зусім не старая. Так сабе, сярэдніх гадоў. Чамусьці менавіта я вылучаюся з натоўпу і падыходжу да яе. Яна кажа, што ўсе гэтыя людзі павінны памерці. А я кажу ёй у адказ, што гэта несправядліва, калі людзі заўчасна адыходзяць. А яна мне: "Я ніколі не бываю заўчаснай". Тады я абураюся і прашу: "Вазьмі мяне адну, а іх пакінь." Смерць смяецца: "Якая самаахвярнасць! Што ж, хадзем пагутарым, калі хочаш,"— звяртаецца яна да мяне. Мы ідзем у асобны пакой. Здаецца, гэта кухня, бо там стаіць пліта, стол, табурэткі. Яна сядае, а я пачынаю варыць ёй каву ў вялікай каструлі. Увогуле, яна сама — вялікага росту. Разы ў два больш за мяне.

Нарэшце кава зварылася, я разліваю яе па кубках, і сядаю разам з ёй...(пауза).

В а р в о л ь. А далей?

В а л ь к і р ы я. А далей -- я прачнулася.

В а р в о л ь. Цікава.

В а л ь к і р ы я (*з дакорам*). Гэта хутчэй страшна, чым цікава.

В а р в о л ь (*не зважаючы*). А што ты адчувала, калі ўсё гэта адбывалася?

В а л ь к і р ы я. Спачатку мне падалося, што я некуды праваьваюся, у няўцямную пустэчу. Потым я адчула сябе сярод знаёмых, і толькі незвычайнасць абставін уздзейнічала на мяне пэўным чынам. Калі з'явілася Смерць, мне стала холадна. Усё адбывалася так, як у рэчаіснасці, хоць я і ведала, што гэта сон. Калі я прачнулася, у мяне была дрыготка.

В а р в о л ь (*з трывогай*). Гэта быў не сон. Дакладней, не зусім звычайны сон. Гэта нядобры знак.

В а л ь к і р ы я. А кажуць, што калі сніцца смерць, то будзеш доўга жыць.

В а р в о л ь. Ці ж мала што кажуць...

В а л ь к і р ы я. А я веру ў прыкметы.

Варволь. Ты можаш верыць ва ўсё, што хочаш. У рэшце рэшт гэта не мае значэння.

В а л ь к і р ы я. А што мае значэнне?

В а р в о л ь. Нічога.

В а л ь к і р ы я (*разгублена*). Значыць, усё дарэмна?

В а р в о л ь, Не, не дарэмна, але разам з тым не мае ніякага сэнсу.

В а л ь к і р ы я. Дык навошта тады гэта ўсё?

Варволь. Калі зоркі запальваюць — гэта камусьці патрэбна. Калі яны згасаюць — гэтаксама.

В а л ь к і р ы я. Усё вызначана загадзя?

В а р в о л ь. Нічога не вызначана. Усё стыхійна.

В а л ь к і р ы я, І наша жыццё?

В а р в о л ь. І наша смерць.

*Паўза*

Валькірыя (*сумна*). А ведаеш, я хацела б памерці ад разрыву сэрца, і каб не вельмі старой.

В а р в о л ь. А я раней хацеў памерці, як рымскі патрыцый -- ускрыўшы вены або ад атруты.

В а л ь к і р ы я. Гэта высакародна.

В а р в о л ь. Але, па-сутнасці, калі ўжо вырашыў памерці, дык якая розніца, якім спосабам? Людзі так любяць ствараць з усяго спектакль! Нават сваю смерць яны ператвараюць у відовішча для публікі. Замест таго, каб думаць аб вечным, яны думаюць аб тым уражанні, якое пакінуць іх апошнія імгненні на гэтай зямлі.

В а л ь к і р ы я. Ты не любіш людзей?

В а р в о л ь. А за што іх любіць? За слабасці, якія бясконца ўзводзяцца ў культ? За хлусню, якой прапітаныя ўсе іх словы і ўчынкі? За цемру іхняй душы і нежаданне ведаць больш за вузкае кола неабходнай інфармацыі? Ці можа мне палюбіць іх за бязмежнае самалюбства або нікчэмныя памкненні? Ды ўсё гэта хутчэй смяшыць мяне і выклікае прыкрасць.

В а л ь к і р ы я. Ты жорсткі.

В а р в о л ь. Я не жорсткі, але я бязлітасны. Такімі становяцца ўсе людзі, што крочаць па шляху спазнання, І нават дзіця, якое псуе цацку, каб паглядзець, што там у яе ўнутры, яно не мае літасці. Яно ведае, што цацку ўжо не аднавіць, аднак жаданне ведаць перамагае жаль Жорсткасць вынікае са злосці. А хіба ты можаш назваць мяне злым?

В а л ь к і р ы я. Не.

В а р в о л ь. Я да людзей стаўлюся нейтральна, хаця варта было б пашкадаваць іх, няшчасных.

В а л ь к і р ы я. А да мяне як ты ставішся?

В а р в о л ь. Ты не такая, як усе. Але і ты яшчэ вельмі моцна аплецена павуцінай уяўных каштоўнасцяў. Калі ты знойдзеш у сабе той неабходны згустак сілы і пераскочыш праз ручай ілюзій;
— я буду вельмі ўзарадаваны. Калі ж такога не адбудзецца — мне будзе проста сумна (*адкідваецца на спінку капаны*).

В а л ь к і р ы я. Але пераскочыць праз тэты ручай зусім няпроста.

В а р в о л ь. Безумоўна. Можна нават загінуць.

В а л ь к і р ы я. І што ты будзеш рабіць, калі я раптоўна загіну?

Варволь. А што я тады ўжо змагу зрабіць? Я не Ісус, каб ажыўляць цябе, нібы Лазара, і не чарадзей, каб вярнуць табе жыццё. Зрэшты, я мяркую, што там, куды ты патрапіш пасля смерці, габе будзе калі не лепш, дык ва ўсялякім выпадку не горш, чым тут.

В а л ь к і р ы я. Чаму ты так лічыш? Хіба ты там быў?

В а р в о л ь. Я быў там, дзе не бывае ніхто. Свет, горшы за наш, наўрад ці знойдзеш. Мы пакараныя ўжо за тое, што нарадзіліся людзьмі.

В а л ь к і р ы я. Ты кажаш жахлівыя рэчы. Быццам я ўжо памерла.

В а р в о л ь. Можа ты і сапраўды ўжо памерла, але не ведаеш аб тым.

В а л ь к і р ы я здзіўлена глядзіць на яго.

В а р в о л ь (з *усмешкай узнімаецца з канапы*). Ну, хопіць затлумліваць галаву. Не жаночая гэта справа. Лепш за ўсё, мабыць, табе заставацца на тым узроўні, на якім ты ёсць зараз. Жанчынам гэта непатрэбна, дый мужчынам не так патрэбна, як здаецца (*адыходзіць у бок і задумваецца*).

В а л ь к і р ы я. Тады я не разумею, навошта ўвогуле нешта шукаць і ісці шляхам спазнання?

В а р в о л ь. Навошта. От любіш ты гэтае слова. Ды хаця б на тое, каб не быць у агульнай масе і такім, як усе. А калі мець на ўвазе глыбінную сутнасць, дык смерць людзей пазнання адрозніваецца ад смерці звычайных людзей.

В а л ь к і р ы я. Чым жа?

В а р в ол ь. Магчыма, ты даведаешся аб гэтым, калі пераскочыш праз ручаіну. А пакуль што я не маю права табе аб гэ
тым казаць. Зрэшты, разумны чалавек думае аб жыцці, а не аб смерці.

В а л ь к і р ы я. Атрымоўваецца нейкая бяссэнснасць,

В а р в ол ь Так, бяссэнснасць...(пауза).

Навошта свет, быццё, прастора, час,
Істота, развіццё, нябыт і вечнасць,
Прагрэс, рэгрэс, процістаянне мае,
Смерць, нараджэнне, жорсткасць, чалавечнасць?

Навошта верыць, помніць, разважаць,
Кахаць, сварыцца, жартаваць, нудзіцца,
Ствараць, знішчаць, рэтушаваць, скажаць,
Ахоўваць, помсціць, ратаваць, тапіцца,

Шукаць у з'явах сэнс, а ў стравах — смак,
І за жыццё плаціць высокім коштам?
Усё ж знікае ў рэшце рэштг, аднак...

Навошта і пытаць тады: "Навошта?"

Валькірыя напружана маўчыць, утаропіўшыся ў адну кропку. Варволь падыходзіць да акна, узіраецца ў цемру. Валькірыя пераводзіць на яго позірк.

В а л ь к і р ы я, А як ты прыйшоў да гэтага?

В а р в о л ь, Да чаго? В а л ь к і р ы я. Да шляху спазнання.

В а р в о л ь. Проста я любіў чытаць кнігі, гэтыя кнігі наводзілі мяне на думкі, думкі ў свой час падштурхоўвалі да дзеянняў.

В а л ь к і р ы я, Значыць, кнігі былі той першаасновай, якая падвяла цябе да той самай ручаіны?

В а р в о л ь. Не толькі.

В а л ь к і р ы я. Што ж яшчэ?

В а р в о л ь, Гутаркі з разумнымі людзьмі, якіх, на жаль, адзінкі. І дзіцячая мара.

В а л ь к і р ы я (*здзіўлена*). Нават мара? Варволь. Я марыў мець крылы, каб лётаць у нябёсах. Марыў адасобіцца ад натоўпу. Мне абрыдла адчуваць сябе часткай бязлікай масы, і я хацеў вырвацца з яе, пераадолець сябе. І вось я адарваўся ад зямлі і ... паляцеў (пауза, з усмешкай). Так і лётаю да гэтага часу.

В а л ь к і р ы я. Як воблака?

В а р в о л ь. Амаль што. Усе мы, нібы аблокі, што ганяе мройны вецер, І куды ён занясе нас — невядома.

*Пауза*

В а л ь к і р ы я. І мы не можам супрацьстаяць яму?

В а р в о л ь. Можам, але для гэтага неабходна мець сілу.

В а л ь к і р ы я. А калі яе няма?

Варволь, Тады цябе будзе проста несці ў пустэчу, і тваё існаванне не будзе асабліва адрозніваццa ад існавання амёбы. Большасць людзей так і жыве.

В а л ь к і р ы я. Але ж людзі ўсе розныя.

Варволь. Яны проста іграюць розныя ролі, а сутнасць ва ўсіх аднолькавая.

Валькірыя (*згадваючы*). "Жыццё — тэатр, а людзі ў ім — акцёры..."

Варволь. Менавіта так. Лепей не скажаш. Толькі варта ўдакладніць, што жыццё — не проста тэатр, а тэатр абсурду.

В а л ь к і р ы я (*з сумам*). Як жа ўсё гэта складана!

В а р в о л ь. Жыццё не такое простае, як здаецца, яно значна прасцей. Вось у чым уся складанасць (*ўсміхаецца, сядае на канапу і*

*бярэ яе зарукі).* Ты — жанчына, а ўсім жанчынам у канчатковым выніку патрэбна толькі адно. Не прымай блізка да сэрца ўсе гэтыя разважанні, яны не прынясуць табе ніякай карысці. Ты нарадзілася, каб стаць увасабленнем прыгажосці, каб ствараць і кахаць, а не для таго, каб пакутваць.

В а л ь к і р ы я. А ты?

В а р в о л ь. Я — іншая справа. Мае думкі — мае каты, і канчаткова мне іх ніколі не знішчыць (*занепакоена маўчыць*).

В а л ь к і р ы я. Аднак жа, ты займаешся мастацтвам, ствараеш прыгажосць...

В а р в о л ь (*узнімаючыся).* Мастацтва не можа існаваць у тым, што спынілася, у тым, што захоўвае нерухомасць. Мастацтва — раптоўнае. Усялякая задуманая рэч нараджаецца мёртвай. Прыгажосць гэта не сляды алоўка на паперы, а той момант, калі сэрца мастака разрываецца на шматкі. Прыгажосць — гэта імгненне, якога не было, і якое ты ствараеш і робіш непаўторным. Прыгожа спяшацца раскрыць сябе, здзейсніць свой скачок, імкнуцца зрабіць усё, не адмаўляючыся ні ад чаго, быць здольным усё спасцігнуць. Прыгожа —тое, што не спыняцецца, не засынае і не паварочваецца назад. Быць прыгожым — значыць бясконца мяняцца. Хто не змяняецца — той мёртвы. Наша зямля населена жывымі мерцвякамі. Якая справа ім да прыгажосці, калі яны нават не могуць пазбавіцца ад упартай схільнасці планаваць сваё жыццё? Сядзяць увесь час у сваёй балоцвіне і носа не высоўваюць на паверхню. І кожнае такое застылае жыццё.— мёртвы цяжар, які стрымлівае памкненне наперад. Людзі мастацтва — тыя, хто ажыўляе гэтую балоцвіну сваімі дзіўнымі ўчынкамі. Менавіта яны першыя высоўваюць адтуль нос, а потым вылазяць і самі, не баючыся магчымых вынікаў. Яны кідаюць выклік усім, рызыкуюць і перамагаюць. Але творчая асоба мае права называцца майстрам толькі ў тым выпадку, калі зможа прымусіць нас ацаніць свой твор, а не сябе самога, Калі ж чалавек надае сваёй персоне такое ж значэнне, як і сваёй творчасці, то тут жа апыняецца на ўзроўні рамесніка, і ніколі не зможа стаць сапраўдным творцай. Мастацтва — гэта адлюстраванне волі, яно ірацыянальнае і непрадказальнае. Мастацтва — гэта вар'яцтва, якому даруецца ўсё. Я назаўсёды злучаны з мастацтвам, бо так пажадала мая воля. Я не ствараю прыгажосці, я ўсяго толькі адчуваю яе подых, прапускаю праз сябе ейныя токі, далучаюся да неабсяжнай прасторы гэтай нябачнай сілы. А прыгажосць — яна не толькі ў тым, што лічаць добрым. Яна ўсюдыісная. Гэта людзі падзялілі свет на добрае і дурное. На самой справе фактычна не існуе ні добрага, ні дурнога, а ёсць

толькі нашыя адносіны да гэтага. Змяні свае адносіны да прадмета, зменіцца і сам прадмет.

В а л ь к і р ы я, Я не магу пагадзіцца з табой у тым, што прыгажосць можа быць у знішчэнні. Хіба прыгожыя ахвяры вайны, хворыя дзеці, галодныя старыя?

В а р в о л ь. Ты кажаш так, таму што цябе навучылі думаць такім чынам. А калі б цябе вучылі, што менавіта ў гэтым прыгажосць і заключаецца, ты разважала б зусім інакш.

В а л ь к і р ы я. Я не разумею.

В а р в о л ь, Ну, хопіць аб гэтым. Я бачу, мне цябе не пераканаць. Дый навошта? Мы з табой, як дзве ракі — нечым падобныя, аднак, цячэм у розных накірунках.

*Паўза*

В а р в о л ь сядае на каналу, кладзе галаву

В а л ь к і р ы і на калені і выцягвае ногі. Валькірыя лашчыць ягоныя валасы.

В а л ь к і р ы я, Занадта шмат ты думаеш.

В а р в о л ь. І праўда. Але ў апошні час я пачаў ад гэтага адыходзіць. Імкнуся аддавацца адчуванням, а не думкам.

В а л ь к і р ы я. Ты не давяраеш розуму?

В а р в о л ь, Давярай, ды правярай. Я веру, не веруючы, раблю, не робячы. Увогуле з гэтым светам мяне нічога не звязвае.

В а л ь к і р ы я. Тады чаму б табе не пайсці ў іншы свет?

В а р ь о л ь, Хіба мяне там чакаюць? Хіба мяне туды клікалі? Куды я паспею заўжды, без боязі і без нуды.

В а л ь к і р ы я (*летуценна*). А мне нікуды ісці не хочацца. Мне і тут добра, побач з табой (*цалуе яго ў лоб*).

В а р в о л ь заплюшчвае вочы і маўчыць, Пачынаецца світанне.

В а л ь к і р ы я. Чаму ў цябе такое дзіўнае імя, В а р в о л ь?

В а р в о л ь. Таму што і сам я дзіўны.

В а л ь к і р ы я. А калі сур'ёзна?

В а р в о л ь (*пазяхаючы).* Калі сур'ёзна, дык таму, што колер валасоў у мяне нагадвае смалу. У дзяцінстве мяне клікалі маленькім д'яблам, хаця я хутчэй дэман, чым д'ябал (*пауза*). Я сам абраў сабе гэтае імя, бо яно мне падабаецца.

В а л ь к і р ы я. Цікава, якім ты быў у дзяцінстве?

В а р в о л ь. З нараджэння я быў вельмі неспакойным і ўпартым, любіў даймаць сваіх родзічаў рознымі дзіўнымі ўчынкамі.

Нарэшце яны адаслалі мяне падалей, вучыцца ў іншы горад. Там настаўнікі і апекуны наплакаліся са мной. Я быў вельмі рухавым, але нязграбным, дасціпным, але з'едлівым, кампанейскім, але адзінокім. Я заўсёды быў сам па сабе.

В а л ь к і р ы я. А далей?

В а р в о л ь. Далей я паступіў у каледж і вучыўся там, пакуль мяне не выгналі.

В а л ь к і р ы я. Цябе выключылі з-за дысцыпліны?

В а р в о л ь. Хутчэй за тое, што я быў не такім, як усе і не хацеў жыць па агульнапрынятых нормах. Бацька напісаў, што мае паводзіны кладуць ганебны адбітак на гонар сям'і, і таму ён адмаўляецца ад мяне. Аднак, перад смерцю бацька ўсё ж такі завяшчаў мне кавалак зямлі (*паўза*). Дзяцей, як і бацькоў, не выбіраюць.

В а л ь к і р ы я. А я выхоўвалася ў пансіёне для дзяўчынак і была паінькай.

В а р в о л ь. А як ты стала акторкай?

В а л ь к і р ы я. Проста я вельмі любіла тэатр. Аднойчы нас, маленькіх дзяўчынак, павялі на балет. Я тады яшчэ зусім не разумела, што адбываецца на сцэне, бясконца турбавала выхавацелек, каб яны растлумачылі мне сутнасць тэатральнага дзеяння. Гэты першы візіт у храм Мельпамены глыбока запаў мне ў сэрца. Пасля ўжо мы з сяброўкамі часта наведваліся ў розныя тэатры, і ў мяне паступова вырастала жаданне стаць акторкай. Бацька не ўхваляў мой выбар. Ён лічыў, што ўсе акторкі — жанчыны лёгкіх паводзінаў.

В а р в о л ь. А маці?

В а л ь к і р ы я. Маці нічога не магла сказаць, бо яе на той час ужо не было.

В а р в о л ь. Прабач.

В а л ь к і р ы я. Я паступіла ў тэатральную школу, пасля якой патрапіла ў правінцыйны тэатр, дзе цяпер і працую.

В а р в о л ь (*узнімаючыся)*. І табе ніколі не даводзілася шкадаваць аб сваім выбары?

В а л ь к і р ы я. Не, нягледзячы на ўсе цяжкасці О стае з канапы). Я не ўяўляю сябе без гэтага (падыходзіць да люстэрка). Я зараз бачу свае адлюстраванне ў люстэрцы, а разам з ім і адлюстраванне тых роляў, якія давялося сыграць. Усе яны ува мне. Часам мне здаецца, што мяне самой — няма, а ёсць толькі тыя людзі, якіх я ўвасабляла.

В а р в о л ь. Нічога дзіўнага. Гэтак жа і ў жыцці. Ты паступова вымушаны стаць адлюстраваннем тых людзей, якія цябе акружаюць. Застацца сабой вельмі няпроста.

В а л ь к і р ы я. Але, хоць і кажуць, што акцёр павінен жыць на сцэне, ды тэатр і жыццё — гэта не адно і тое ж. У тэатры свае законы, і яны даволі жорсткія (*задумваецца*). Тэатр... Якія словы трэба адшукаць, каб выказаць мае пачуцці да яго? Сказаць, што я люблю яго, было б відавочна недастаткова. Так, люблю, але гэтае "люблю" змяшчае ў сабе цэлы прасцяг маіх адчуванняў, успамінаў, надзей. Тэатр стаў маёй рэлігіяй, маім храмам, Я знайшла ў ім нейкую святасць. Я хаджу ў тэатр так, як людзі ходзяць у царкву або на свята. У думках я міжволі рыхтуюся да сустрэчы з нечым новым, неспазнаным і адначасова такім блізкім і родным. Сама атмасфера тэатра навявае столькі светлага і прыемнага з аднаго боку, але і крыху сумнага з другога. У тэатры нараджаюцца і паміраюць, тут знаходзяць сваё каханне і перажываюць разлуку. Сцэна можа быць і эшафотам, і трыбунай, і дрыготкім мастком над безданню... На сцэне часам дазваляецца рабіць тое, чаго ніколі не зробіш у рэальным жыцці. Акцёр выцягвае з глыбіняў сваёй душы самае патаемнае, ён міжволі становіцца псіхолагам, бо яму неабходна стварыць вобраз... Стварыць вобраз, знайсці сябе ў гэтым вобразе, стварыць самога сябе... Тут вельмі шмат залежыць ад таленту рэжысёра — гэтага ваяцеля, які лепіць, руйнуе і зноў лепіць. Ён павінен бачыць нябачнае, успрымаць неўспрымальнае, сумяшчаць несумяшчальнае. А што выпадае на долю драматурга? Яму варта быць і акцёрам, і рэжысёрам адначасова, бо толькі тады зможаш стварыць усю панараму дзеяння. У мастацтве не павінна быць людзей выпадковых. Калі ты прыйшоў да гэтага, то, на ўсім відаць, не проста так і недарэмна. У мастацтве няма месца для пасрэднасці. І калі чалавек гэта зразумее, ён або пераключыцца на іншыя сферы дзейнасці, або ўзніме свой талент да такой вышыні, з якой падзенне ўніз здаецца немагчымым. Для сапраўдных творчых асоб мастацтва — тая любоў, якая бывае з маленства і на ўсё жыццё...

В а р в о л ь (*узнімаючыся з канапы*). Якая палымяная прамова!

В а л ь к і р ы я з дакорам глядзіць на яго.

В а р в о л ь. Ды не, я кажу зусім без іроніі. Я ў захапленні ад тваёй адданасці тэатру.

В а л ь к і р ы я. Я, можна сказаць, жыву гэтым.

В а р в о л ь (*падыходзячы да яе*). Жыць — значыць імкнуцца не спыняцца ў сваім пазнанні і дзеяннях на палове шляху, нават у тым выпадку, калі дакладна не ведаеш, што робіш і куды ідзеш. Але гэта

не значыць, як часта кажуць, што трэба ісці да канца, бо яго не існуе. Дастаткова ўсвядоміць, што заблукаць па-сапраўднаму можна толькі тады, калі топчашся на месцы,

В а л ь к і р ы я. А мне здаецца, што я заблукала ў каханні.

Варволь бярэ яе на рукі і кружыць.

В а л ь к і р ы я. Я хацела б назаўсёды застацца з табой.

Варволь. Нават калі ты і не застанешся са мной, ты застанешся ў маім сэрцы (*адпускае яе*).

В а л ь к і р ы я. Не пакідай мяне, калі нават ты і дэман.

В а р в о л ь. Я буду побач, пакуль мройны вецер не развее нашых пачуццяў і не закіне нас у калодзеж нябыту.

В а л ь к і р ы я. Я буду поруч, пакуль хопіць моцы караскацца на паверхню, пакуль будзе ставаць сіл на пераадоленне міражоў,

В а р в о л ь. О, гэтыя жанчыны! Горыч і слодыч, боль і натхненне, смутак і ўзнёсласць! Калі хочаш спазнаць Сусвет — спазнай спачатку жанчыну. А я ўжо думаў, што больш ніколі не буду мець з жанчынамі сур'ёзных адносін. І ўсё з-за таго, што шкадаваў іхнія пачуцці і не хацеў,каб яны праз мяне пакутвалі. Ведаеш,усім сваім жанчынам я не прыносіў нічога, апроч няшчасцяў. Я баяўся, што гэта адбудзецца зноў. Але з'явілася ты, і я не стрымаўся. Мною апанавала ліхаманкавае жаданне... Ды, апроч усяго, я пабачыў у табе роднасную душу. Я размаўляў з табой так, як ні з кім да гэтага часу. Ты здолела зрабіць неверагоднае. Не ведаю, ці варты я тваёй увагі. Мне падаецца, што нам давядзецца заплаціць за ўсё занадта высокім коштам...

В а л ь к і р ы я *(з трывогай*). Не кажы так... Я не хачу страціць цябе.

В а р в о л ь *(з горкай усмешкай*). Страціць? Хіба ты маеш мяне? Усе мы належым толькі лесу, невымернай стыхіі, дый то — умоўна. Плаціць прыходзіцца за ўсё — і на гэтым свеце, у гэтым жыцці, а не пасля міфічнага боскага суду. Плаціць за сілу і за слабасць, за праўду і за ману, за рух і за прастой на месцы. Плаціць за каханне, якое асляпляе цябе, нібы маланка, і за здраду, якую ты не мог сабе нават уявіць. Усё падпарадкоўваецца гэтаму закону, таму ў жыцці трэба быць гатовым да самага горшага,

В а л ь к і р ы я. Але горшага можна пазбегнуць, калі верыць...

В а р в о л ь. Верыць каму або чаму?

В а л ь к і р ы я. Верыць у што-небудзь светлае. Верыць у каханне, верыць у прыгажосць, якая выратуе свет...

В а р в о л ь. Або загубіць яго.

В а л ь к і р ы я (*незадаволена*). Ну чаму ты такі змрочны? Нібыта выкупаўся ў басейне з атрутай, і ёй прапіталіся ўсе твае думкі.

В а р в о л ь. Думкі — гэта сапраўды атрута... і пакута. Я вымушаны сваімі пакутамі аплочваць магчымасць дакранання да вялікіх ведаў. Часам здаецца, што тыя вобразы, якія блукаюць недзе ўнутры, могуць прыдушыць, калі не даць ім выйсця.

В а л ь к і р ы я (*з жалобой*). Табе цяжка? Варволь. Мне горка (*пауза*). Канешне, значна прасцей было б жыць так, як усе, але я не ўжо не магу вярнуцца назад.

В а л ь к і р ы я. Не дазваляе гонар?

В а р в о л ь. Не гонар, а годнасць.

В а л ь к і р ы я. Хіба гэта не адно і тое ж?

В а р в о л ь. Зусім не. Годнасць — прывілея высакародных, гонар — усіх. Гонар атаясамліваецца з рэпутацыяй, годнасць ад яе не залежыць. Чалавек можа згубіць гонар, захаваўшы пры гэтым годнасць. Але згубіўшы годнасць, яе ўжо не адновіш, нават пры дапамозе гонару.

В а л ь к і р ы я. Дзіўна. А мне здавалася, што гэтыя паняцці ўзаемазалежныя.

В а р в о л ь. Па сутнасці, усё ўзаемазалежна. Ты залежыш ад мяне, а я ад цябе. Сусвет залежыць ад нас, а мы — ад Сусвету, Усё ў сукупнасці залежыць ад волі.

В а л ь к і р ы я. Дык значыць воля вызначае наша будучае?

В а р в о л ь. Будучае існуе ў тваім ўяўленні гэтак жа, як і мінулае ў памяці. Есць толькі цяперашняе, а што будзе заўтра
ніхто не ведае. І невядома нават, што будзе з намі праз дзесяць хвілін.

В а л ь к і р ы я. Аднак, гэта можна спрагназіраваць. .

В а р в о л ь (*з усмешкай*). Паспрабуй, спрагназіруй, што з намі адбудзецца ў бліжэйшы час...

В а л ь к і р ы я. Мы будзем разам, будзем кахаць адзін аднаго...

В а р в о л ь. З чаго ты ўзяла? Можа здарыцца штосьці такое, што развядзе нас назаўсёды.

В а л ь к і р ы я (*з іроніяй*). Зямля сыйдзе з арбіты? Свет перакуліцца?

В а р в о л ь (*сур'ёзна*). Магчыма, я не ведаю.

*Паўза*

В а л ь к і р ы я. І ты не будзеш шкадаваць аб тым, што мяне няма побач?

В а р в о л ь. Я ніколі ні аб чым не шкадую.

В а л ь к і р ы я. Ніколі не кажы ніколі.

В а р в о л ь. Штампаў начыталася?

В а л ь к і р ы я. Але ж гэта так. Ты сам толькі што казаў, што будучае фактычна не існуе.

В а р в о л ь. І сапраўды. Можа я і пачну шкадаваць аб тым, што здзейснілася, хоць гэта і глупства марнаваць час на шкадаванне.

В а л ь к і р ы я. А што тады не глупства?

В а р в о ль. От, любіш ты задаваць пытанні. Гэта мне ў табе і падабаецца. І ўсё ж памятай: чым глыбей капаеш, тым меней шанцаў вылезці назад.

*Абодва маўчаць.*

В а л ь к і р ы я. Ужо амаль развіднела. Дзень будзс спякотным (*падыходзіць да акна і расчыняе яго*). Калі б я была мастаком, я малявала б неба (*узіраецца ў акно*). Яно такое вялікае і неабсяжнае, як мора. Яно ўвесь час змяняе свае адценні.

В а р в о ль (*падыходзячы да яе*). А ты адчувала калі-небудзь, як яно дыхае?

В а л ь к і р ы я. Я не думала, што гэта магчыма.

В а р в о л ь. А ты прыслухайся...

*Пауза*

В а л ь к і р ы я. Здаецца, у мяне кружыцца галава.

Варволь. Гэта таму, што раней з табой такога не было.

В а л ь к і р ы я. Так.

В а р в о л ь. Новае адчуванне прымусіла цябе ўвайсці ў нязвыклы стан.

В а л ь к і р ы я. Аблокі... Яны таксама жывыя.

В а р в о л ь. Яны — наша адлюстраванне.

В а л ь к і р ы я. А сонца?, Сёння раніцай яно такое барвовае, што становіцца не па сабе ад гэтага колеру...

В а р в о л ь. Сонца — нібы вогненнае вока, якое акунулася ў кубак з крывёй.

В а л ь к і р ы я. Жахлівая рамантыка.

В а р в о л ь. Гэтая раніца жахлівая. Яна прадвяшчае нешта нядобрае. Я не люблю раніцу. Я люблю адвячорак, сутонне і захад сонца.

В а л ь к і р ы я. Калі доўга глядзець на ўзыходзячае сонца, стамляюцца вочы.

В а р в о л ь. Адзін мысляр сказаў, што ні на сонца, ні на смерць нельга глядзець проста так, без ахоўных сродкаў. А я аднойчы дазволіў сабе зірнуць на Яе Вялікасць Смерць...

В а л ь к і р ы я (*спалохана*). І што?

В а рв о л ь. Нічога. Жыву сабе, як і раней, і гляджу на сонца. Я — нібы тая птушка Фенікс, што сама сябе знішчае, а потым уваскрасае з попелу.

В а л ь к і р ы я. Ты нешта не дагаворваеш...

Варволь. Гэта страшна, Валькірыя. І табе не варта рабіць падобную спробу. Дастаткова толькі ведаць, што Смерць заўсёды ў цябе за спіной і ў кожны момант можа ляпнуць па плячы. Ад яе нікуды не збегчы. Я бясконца аб гэтым памятаю.

В а л ь к і р ы я. А якая яна, Смерць?

Варволь. Недарэчнае пытанне.

В а л ь к і р ы я. Чаму?

В а р в о л ь. Таму, што яно нагадвае цікаўнасць маленькай дзяўчынкі да звера ў заапарку. Дзяўчынка хоча яго пагладзіць, прасоўвае руку ў клетку, а звер раптоўна цапае яе і не адпускае.

В а л ь к і р ы я. Я сур'ёзна,

Варволь. Смерць можа быць такой, якой ты яе сабе ўявіш. Яна можа быць і сонцам, і ветрам, і чалавекам. Яна можа ўвасобіцца ў кожнай рэчы або з'яве.

В а л ь к і р ы я. А як вызначыць, дзе яна хаваецца?

В а р в о л ь. Адчуваннем (*пауза*).

В а л ь к і р ы я. Несправядліва, што адны людзі дажываюць да сівых валасоў, а другія гінуць заўчасна.

В а р в о л ь. Смерць не бывае заўчаснай. Гэта толькі так кажуць. Згадай свой сон. Смерць заўсёды прыходзіць менавіта тады, кал і трэба. Чалавек заканчвае жыццё самагубствам, але ён не сам сябе забівае. Яго забівае страх, бяссілле ці нешта яшчэ.

В а л ь к і р ы я. Чаму ж людзі так не хочуць паміраць? Ты казаў, што наш свет — самы горшы, але чаму людзі так не хочуць пакідаць яго?

В а р в о л ь. Жыццёвая сіла трымае іх. Смерць забірае толькі тады, калі ў гэтым ёсць неабходнасць. Яна дасылае свайго вернага служку — страх, каб ён перакрыў калідор да яе і затрымаў чалавека. А калі смерць хоча забраць кагосьці з людзей, дык таксама можа даслаць страх, але ўжо ў іншай якасці.

В а л ь к і р ы я. Ад тваіх слоў я нібы ў тумане.

В а р в о л ь. Я табе не казачкі расказваю. Бачыш гэтае акно? Яно можа стаць акном у іншы свет, але ў цябе недастаткова сілы, каб патрапіць туды.

В а л ь к і р ы я. Дзе мне ўзяць тую сілу?

В а р в о л ь. У ведах. Але спачатку ты павінна вырашыць: ці сапраўды табе гэта неабходна. Калі ж ты адчуваеш, што здольная без гэтага пражыць, дык лепей не звязвацца, інакш можна загінуць або завіснуць на палове шляху.

В а л ь к і р ы я. Я вельмі хачу патрапіць у іншы свет, але, зразумела, так, каб пасля вярнуцца ў гэты.

В а р в о л ь. З якой мэтай ты хочаш патрапіць туды?

В а л ь к і р ы я. Мне проста цікава.

Варволь. Калі проста цікава, дык і не спрабуй.

В а л ь к і р ы я. Але ж я не жартую.

В а р в о л ь. Тады стань на гэты падаконнік і ўзляці.

В а л ь к і р ы я (*здзіўлена*). Што-о?!?

В а р в о л ь. Я кажу — узлятай!

В а л ь к і р ы я. Я ж не птушка, каб лётаць.

В а р в о л ь. Безумоўна, ты не птушка, а чалавек. І таму здольная на большае.

В а л ь к і р ы я (*пазіраючы ўніз*). Сёмы паверх. Я ж разаб'юся, калі саскочу з гэтага падаконніка.

В а р в о л ь Гэта твой розум лямантуе: "Я разаб'юся". А ты яго слухаеш.

В а л ь к і р ы я. Але ж гэта так. Чалавек не можа лятаць.

В а р в о л ь (*упэўнена*). Можа.

В а л ь к і р ы я. Ты лятаў?

Варволь. Ну, а як жа!

В а л ь к і р ы я. Мабыць, у сне!

В а р в о л ь. Не, гэта быў не сон у звычайным разуменні.

В а л ь к і р ы я Я не змагу пераадолець сілу прыцягнення. У мяне няма крылаў. Мне аб палётах можна толькі марыць.

В а р в о л ь. Я дапамагу табе.

В а л ь к і р ы я. Паляціш са мной?

В а р в о л ь. Не, застануся тут.

В а л ь к і р ы я. Дык што гэта за дапамога?

В а р в о л ь. Ты думаеш, што я цябе разыгрываю?

В а л ь к і р ы я.А што ж яшчэ я магу падумаць?

В а р в о л ь. Ты маеш шанц сустрэцца з сілай, Вырашай — цяпер або ніколі.

В а л ь к і р ы я. Ну, добра (*узлазіць не падаконнік*).

В а р в о л ь. Наперад!

В а л ь к і р ы я (*пазіраючы ўніз*). Не, я не магу (*злазіць*).

В а р в о л ь (*уздыхнуўшы*). Ну, што ж. Ты засталася пры сваім, а я — пры сваім. Народжаны поўзаць лятаць не можа.

В а л ь к і р ы я. Гэта проста вар'яцтва. Лятаюць толькі ведзьмы (*сціхана*)... на метлах (*яшчэ ціхэй*)... у казках.

В а р в о л ь. Ты паверыла ў прывідаў, але не хочаш паверыць у магчымасць палёту.

В а л ь к і р ы я. Я іх бачыла...

В а р в о л ь. Не бачыла, а адчувала. І тут змагла б адчуць, калі б пераадолела страх.

В а л ь к і р ы я. Каб ты паказаў мне, дык можа...

В а р в о л ь. Я табе што — наглядны прыклад? Тут табе не школа, і я не настаўнік.

В а л ь к і р ы я (*сярдзіта*). Ты, відаць, хацеў, каб я загінула. Нездарма ты так гаварыў аб смерці. Ты хацеў пабачыць яе яшчэ раз?

В а р в о л ь. Глупства. Ізноў ты кажаш глупства.

В а л ь к і р ы я (*пакрыўджана).* Толькі ты адзін разумны.

Варволь (*абдымае яе*). Даруй мне. Я думаў, што ў цябе ёсць неабходная здольнасць. Але яна аказалася толькі кволенькім парасткам, які хутчэй за ўсё загіне. Ты вельмі слабая, і нават я не магу надзяліць цябе сілай, бо твая воля ўхіляецца ад такой магчымасці. Я толькі непакоюся, што нехта можа скарыстаць гэтую слабасць сабе на карысць і табе на шкоду.

В а л ь к і р ы я. Жанчына павінна быць слабай, тады яна падабаецца мужчынам...

В а р в о л ь. Жанчына можа стаць намнога больш моцнай, чым мужчына.

В а л ь к і р ы я. Навошта ёй гэтая моц, калі яе ніхто не кахае?

В а р в о л ь (*гладзіць яе валасы*). Я буду кахаць цябе такой, якая ты ёсць. Дарэчы, я забыўся пра твой партрэт. Сёння я яго скончу.

В а л ь к і р ы я. Цікава, якой я там атрымаюся?

Варволь. Потым даведаешся (*усаджвае яе на канапу, падыходзіць да мальберта і пачынае маляваннё*).

В а л ь к і р ы я. А як ты стаў мастаком?

В а р в о л ь. У маленстве я любіў назіраць за раслінамі, дрэвамі, жывёламі, людзьмі, за ўсім, што адбывалася вакол мяне. Любіў адзначаць асаблівыя якасці і занатоўваць іх у сваёй свядомасці. Але, апроч назірання, я імкнуўся спасцігнуць глыбінную сутнасць рэчаў і адлюстраваць яе. Таму мае малюнкі былі вельмі дзіўнымі і іх

ніхто не разумеў, пакуль я не пачынаў тлумачыць. Я маляваў на ўсім, што траплялася мне пад руку — на абрыўках паперы, фанеры, тканіне. У сваім пакоі я нават распісаў фарбай светлыя шпалеры і дзверы, за што быў пакараны бацькамі. Я рана навучыўся чытаць, У нашай сям'і была вялікая бібліятэка, і туды я збягаў ад усіх, Я праседжваў там гадзінамі, разбіраў пыльныя кнігі з каляровымі ілюстрацыямі, імкнуўся скапіраваць малюнкі. Аднойчы я натрапіў на кніжку вершаў Гіёма Апалінэра. Мяне ўразіла форма ягоных твораў, і я вырашыў зрабіць нешта падобнае. Але, калі я пайшоў на повадзе за формам, мае вершы пачалі губляць нешта ў змесце. Я шукаў і не знаходзіў, імкнуўся сагрэцца ад агню і атрымоўваў апёк. Аднак я не спыняў пошук. У той час, калі мае равеснікі ганялі мяч на вуліцы, я займаўся паглынаннем філасофскіх талмудаў. Але, апрача таго, што я быў засяроджаны на высокіх матэрыях, я часамператвараўся ў гарэзу залазіў на вяршыню дрэва і сядзеў тым паўдня, лазіў па даху і карміў галубоў, спускаўся ў калодзеж на вяроўцы, расфарбоўваў сабе твар, як індзеец, і бегаў пужаць суседскіх дзяўчат. Нягледзячы на тое, што для свайго ўзросту я валодаў даволі вялікім аб'ёмам ведаў, у школе я вучыўся кепска. Школьная сістэма дзейнічала на мяне, як чырвоны ласкут на быка. Я адчуваў, што маю галаву забіваюць нейкай лухтой. А калі я пачынаў задаваць настаўнікам свае пытанні, яны здзіўлена ўзнімалі бровы і часта не ведалі, што мне адказаць. Я быў складаным хлопчыкам. Бацька часта лупцаваў мяне, калі я быў яшчэ зусім маленькім. Але я хутка навучыўся даваць яму здачы. Маці шкадавала мяне, але яе непакоіла, што я такі ўпарты і свавольны. Калі мне споўнілася дзевяць гадоў, бацькі адправілі мяне вучыцца ў суседні горад. Яны думалі, што новыя абставіны і незнаёмыя людзі прымусяць мяне ўзяцца за вучобу, пакінуць захапленне маляваннем і стаць добрым хлопчыкам. Спачатку я паводзіў сябе вельмі ціха і нічым асабліва не вылучаўся. Мае апекуны былі зачараваны мной і дасылалі маім бацькам цёплыя і прыязныя лісты. Але ўжо ў хуткім часе ім давялося аб гэтым моцна пашкадаваць. Чым больш я сталеў, тым больш няўрымслівым я станавіўся. Адвучыўшыся ў школе, я паступіў у каледж. Тады ўжо я адчуваў, што не змагу жыць, як звычайны чалавек. Не змагу працаваць у нейкім бюро, прыносіць жонцы грошы, а дзецям цукеркі, і на выхадныя выязджаць за горад на пікнік. Хаця быў перыяд, калі я жадаў скарыцца гэтай усеагульнай хвалі і стаць добрапрыстойным грамадзянінам. Гэта адбылося таму што я ў чарговы раз закахаўся, прычым так моцна, што нават маляванне адышло для мяне на другі план (*задумваецца).*

В а л ь к і р ы я. Што ж было далей?

В а р в о л ь. Яна была прыгажуняй, працавала натуршчыцай і неўзабаве стала мне пазіраваць. Яна звяла мяне з цікавымі людзьмі. Калі я бачыў яе, то забываў аба ўсім на свеце. Я не мог доўга маляваць яе, бо рука міжволі пачынала дрыжэць, а сэрца гатова было выскачыць з грудзей. Нарэшце я зрабіў ёй прапанову, а яна гучна пасмяялася ў адказ і сказала, што не збіраецца замуж, бо занадта любіць мужчын і не можа належаць камусьці аднаму. Яна была цудоўнай, але ўплыў багемнага асяродку ўжо паклаў на яе свой адбітак. Я ведаў, што яна часам колецца і курыць марыхуану, але не мог пераканаць яе ў тым, што не варта гэтага рабіць. "Ты — гэта ты, а я — гэта я, і не лезь не ў свае справы", — паўтарала яна. Я хацеў выкрасці яе і збегчы ў якое-небудзь ціхае мястэчка. Але ў адзін цудоўны дзень яна заявіла, што я ёй надакучыў і яна не жадае больш мяне бачыць. Я быў у роспачы. Хадзіў за ёй, быццам цень, ныў, як малое дзіця, засыпаў яе вершамі і кветкамі — нічога не дапамагала. Яна была ўсё той жа зменлівай, разбэшчанай какеткай. Я ўжо збіраўся налажыць на сябе рук! ад безвыходнасці, але яна апярэдзіла мяне. У адзін з выхадных дзён яе знайшлі ў інтэрнаце мёртвай. Яна прыняла занадта вялікую дозу гераіну (*паўза*).

В а л ь к і р ы я. Гэта так трагічна... Ты, відаць, моцна перажываў.

В а р в о л ь. Я месца сабе не знаходзіў. Я пачаў многа піць, буяніць, знішчаць свае карціны. Бацька, даведаўшыся аб маіх паводзінах, пачаў дасылаць лісты з пагрозамі пазбавіць мяне наследства. Але яны на мяне не дзейнічалі. Тым не менш, ішоў час, я ўсвядоміў, што страчанае не адновіш, крыху супакоіўся, пачаў зноў цягнуцца да дзяўчат. Я зусім закінуў вучобу, затое шмат аддаваў маляванню. Я вёў вясёлы і бяздумны лад жыцця. Было адчуванне, што я некуды лячу і спыніцца ўжо не ў стане. Па начах я звычайна чытаў або працаваў над чарговай карцінай, а днём спаў. Некалькі маіх сяброў былі выключаны з каледжа за непаспяховасць, тая ж доля чакала і мяне. Я адпусціў доўгія валасы і, пафарбаваўшы іх у вогненна-рыжы колер, заявіўся на заняткі пасля амаль што месяцу прагулаў. Адміністрацыі і выкладчыкам надакучылі мае выхадкі, і мяне выгналі.

В а л ь к і р ы я. А потым ты вандраваў па краіне?

В а р в о л ь Так, пакуль не прыехаў у гэты горад.

В а л ь к і р ы я. Ты падтрымоўваеш нейкую сувязь са сваімі сябрамі?

В а р в о л ь. Не, Я толькі ведаю, што яны засталіся такімі ж гулякамі, як і раней. Калі б я зараз сустрэў каго-небудзь з іх, дык,

напэўна, нам не было б аб чым і пагаварыць, апроч успам- інаў аб мінулым.

В а л ь к і р ы я, Ты адасобіўся ад іх.

В а р в о л ь. Проста я засяродзіўся на сваіх даследаваннях, а яны ніколі асабліва гэтым не цікавіліся. Як быў я адзінокім,так і застаўся.

В а л ь к і р ы я. Але ж цяпер у цябе ёсць я.

В а р в о л ь. Ты далёка, хоць і сядзіш побач.

В а л ь к і р ы я. А мне здаецца, што вельмі блізка. Ва ўсялякім выпадку я хацела б стаць як мага бліжэй да таго, чым ты займаешся.

В а р в о л ь не адказвае і працягвае маляванне.

В а л ь к і р ы я. Ведаеш, мне заўсёды хацелася, каб побач быў блізкі чалавек. Мая маці памерла пры родах, і да шасці гадоў мяне гадавала карміліца. Потым я выхоўвалася ў пансіёне, дзе былі вельмі строгія парадкі. Дзяўчынак наказвалі за дробязі і выхоўвалі ў пурытанскіх традыцыях. Калі нарэшце час майго знаходжання ў пансіёне скончыўся, я была шчаслівая, што вырвалася адтуль. Бацьку я бачыла рэдка, але мне было вядома, што ў яго другая жонка. Я часта спрабавала ўявіць сабе маці. У мяне захаваўся толькі адзін ейны фотаздымак, які я заўжды бяру з сабой, куды б ні наехала.

В а р в о л ь. Цікава было б зірнуць.

В а л ь к і р ы я. Праўда? Тады зараз я знайду яго (*узнімаецца з канапы, падыходзіць да чамадана і пачынае корпацца там. Знаходзіць фотакартку і падыходіць да В а р в о л я.*) Вось, гэта мая маці. Хіба я да яе не падобная?

В а р в о л ь, не спыняючы маляванне адным вокам глядзіць на здымак, і раптам аловак выпадае ў яго з рук, Ён выхоплівае фотакартку ў Валькірыі і пільна ўзіраецца ў яе,

В а л ь к і р ы я (*з трывогай*). Што з табой? Ты бачыў яе раней?

В а р в о л ь (*нізкім голасам*). Я ведаў гэтую жанчыну.

В а л ь к і р ы я (*здзіўлена).* Адкуль?

В а р в о л ь. ...Яна была маёй маці.

В а л ь к і р ы я. Не можа быць! Ты жартуеш?

В а р в о л ь. Я ніз кім не пераблытаю яе аблічча. Я ведаю гэты фотаздымак. Тут не можа быць памылкі. Гэта яна.

В а л ь к і р ы я (*хапаючыся за сэрца)* Ах!

В а р в о л ь (*не выпускаючы з рук фотаздымак*). Неверагодна! Менавіта такой я і запомніў яе — маладой і прыгожай...

В а л ь к і р ы я (*са слязьмі*). Але ж гэта немагчыма. Ты — мой родны брат! О-о, Божухна!..

В а р в о л ь (*гледзячы на здымак*). Мілая мама! Ты мне заўсёды ўсё даравала, цяпер мне так не хапае тваёй пяшчоты.

В а л ь к і р ы я (*пачынаючы плакаць*). Мне расказвалі, што недзе ў мяне ёсць брат, які намнога за мяне старэйшы. І што ён вядзе распутны лад жыцця, малюе ідыёцкія карціны і пагарджае людзьмі. Я яго ніколі не бачыла. Бацька адмовіўся ад яго... ад цябе... Я ведала, што мы павінны сустрэцца, але не магла ўявіць, што ўсё так адбудзецца.

В а р в о л ь (*як у тумане*). Я адразу заўважыў, што ты падобна да яе, Вось значыць што... Гэта нездарма... Маці памерла пры родах, калі мне было дзесяць гадоў. Мне было вядома, што яна нарадзіла дзяўчынку, але як яе назвалі і што з ёй адбылося далей — я не цікавіўся. Кажаш, у бацькі была другая жанчына?.. Бедная мама! Ён не заслугоўваў твайго кахання..

В а л ь к і р ы я (*плача*). Ты — мой родны брат! Не... Гэта не ўкладваецца ў маёй галаве...

В а р в о л ь (*кранаючы яе за плячо*). Супакойся.
Хіба ты не рада таму, што мы нарэшце сустрэліся?

Валькірыя (*істэрычна*). Але ж мы правялі гэтую ноч разам! Я і мой родны брат... Не, я гэтага не перажыву!..

Варволь (*адклаўшы здымак*). Ну чаго ты раскрычалася? Што тут такога? Гэта ж адбылося палюбоўна, а не над прымусам...

В а л ь к і р ы я. Як ты не разумееш! Такога не павінна быць. Гэта ўсё роўна, Што пераспаць з бацькам...

В а р в о л ь. Пераспала б — і чорт з ім. Навошта рабіць з гэтага трагедыю? І чаму ў нас гэта забараняецца?

В а л ь к і р ы я. Ты — вар'ят і распуснік!

В а р в о л ь. Пакінь хваляванне, сястрычка. Цябе запэўнілі ў тым, што гэта недапушчальна, але падумай крышачку — калі двое кахаюць адзін аднаго, дык што перашкаджае ім мець блізкія адносіны, нават, калі яны і родзічы?.. Я буду кахаць цябе яшчэ больш.

В а л ь к і р ы я. Як-ніяк, у нашых жылах цячэ адна і тая ж кроў...

В а л ь к і р ы я (*выціраючы слёзы*). Я не магу змірыцца з гэтым. Такое становішча абражае мяне.

В а р в о л ь. Яно абражае твой гонар, аднак, не псуе тваю годнасць.

В а л ь к і р ы я. Не... Не... Я не вытрываю (падыходзіць да акна).

В а р в о л ь. Чаго ты псіхуеш? Што ты сабралася рабіць?

В а л ь к і р ы я ўзлазіць на падаконнік.

В а р в о л ь. Ты, як я бачу сабралася палятаць? Толькі ўлічы — на гэты раз я не буду табе дапамагаць. Ты разаб'ешся.

В а л ь к і р ы я. І выдатна. Я хачу памерці.

В а р в о л ь. Не, ты хочаш зрабіць з мухі слана і выставіць сябе ў гераічным святле.. (*падыходзіць і сцягвае яе з падаконніка*). Дурніца! Хочаш перакласці адказнасць за сваю смерць на мяне? Правільна, давай сігай і ўсё будзе файна! Няхай брат потым усё жыццё пакутуе ад дакораў сумлення.

В а л ь к і р ы я (*адштурхоўваючы яго*). Ты — пачвара!

В а р в о л ь. Дзякую за камплімент.

В а л ь к і р ы я. Ты — вырадак!

Варволь. Дзякую яшчэ раз.

В а л ь к і р ы я. Ты проста здзекуешся з мяне. Відаць, ты ўсё ведаў з самага пачатку і знарок давёў да гэтага...

В а р в о л ь. Што ты вярзеш? Я здзіўлены не менш, чым ты. Але ў адрозненні ад цябе я рады нашай сустрэчы. Ты можаш жыць са мной. Мы будзем кахаць адзін аднаго. Ты ж сама гак хацела...

В а л ь к і р ы я. Яшчэ і насміхаецца!

В а р в о л ь. Ну, паслухай. Хто ж ведаў, што ўсё павярнецца такім чынам. Так, у нас агульныя бацькі...

В а л ь к і р ы я. Не нагадвай мне аб гэтым.

В а р в о л ь. Чаму? Гэта нават забаўна. Сустрэліся брат з сястрой і пакахалі адзін аднаго.

В а л ь к і р ы я. Але ж так не прынята!

В а р в о л ь. Ды наплюй ты на тое, што прынята і што не прынята. Навошта хлусіць самой сабе? Схлусі лепей грамадству. Зрэшты, ніхто і не ведае, кім ты мне даводзішся...

В а л ь к і р ы я. Але ў хуткім часе людзі даведаюцца пра ўсё, і пачнуцца плёткі...

В а р в о л ь. От, спужалася! Я ўвесь час жыву ў атмасферы разнастайных плётак. Калі б я звяртаў на іх увагу, мне нічога больш не заставалася б, як толькі скласці рукі на грудзі і спыніць дыханне. І аб чым яны даведаюцца? Аб тым, што ты мая сястра? Дык гэта ж натуральна! Сястра прыехала наведаць брата і вырашыла застацца з ім.

В а л ь  к і р ы я. Не. Гэтага не будзе. Я ўвогуле не змагу больш бачыцца з табой пасля ўсяго (*пачынае складваць чамадан*).

В а р в о л ь. Ты збіраешся мяне пакінуць?

В а л ь к і р ы я. Так. І прычым назаўсёды.

В а р в о л ь. Пракляцце! А я думаў, што сустрэў нарэшце жанчыну, якая мяне зразумела.

В а л ь к і р ы я (*закрываючы чамадан*). Я і зразумела, што ты — жорсткі і бяздушны эгаіст.

В а р в о л ь. Я? Гэта ты, мая даражэнькая, эгаістка. Надта ўжо цябе турбуе ўласная рэпутацыя. Ах-ах-ах! Так не прынята! Ай-яй-яй! Што скажуць людзі? Ды што б яны не казалі — якая розніца? Я лічыў, што ўсё, аб чым мы з табой гутарылі, было недарэмным, думаў, што цябе гэта сапраўды цікавіць. Аказваецца, ты проста разыгрывала ўдзячную слухачку. Ну, дык дзякуй за ўвагу!

В а л ь к і р ы я (*падходзячы да яго*). Я шукала кахання, а твае філасофскія нагрувашчанні не для мяне.

В а р в о л ь. Цудоўна. Значыць, я біўся галавой аб сцяну.

В а л ь к і р ы я. Я лічыла цябе разумным чалавекам, але цяпер бачу, што нічога чалавечага ў цябе не засталося.

В а р в о л ь. Памыляешся. Ва мне больш чалавечага, чымсьці ў тваіх маралісцкіх развагах. Ну, добра, калі ўжо цябе бянтэжаць блізкія адносіны, тады абяцаю любіць цябе, як брат.

В а л ь к і р ы я. Лепей застацца зусім адной, чым мець такога брата.

В а р в о л ь (*з сумам*). Значыць, ты ўсё-ткі сыходзіш?

В а л ь к і р ы я. Так. І не імкніся зноў сустракацца са мной.

В а р в о л ь. Можаш не хвалявацца. Адно шкада, што ты мяне зусім не зразумела. Ат, няма разумення на гэтым свеце... Можа хоць карціну возьмеш на памяць?

В а л ь к і р ы я. Пакінь сабе (*паўза*). Бывай, В а р в о л ь.

В а р в о л ь. Бывай, В а л ь к і р ы я.

В а л ь к і р ы я надзявае капялюш, бярэ чамадан і выходзіць.

Варволь, хвіліну пастаяўшы, падыходзіць да мальбэрта, глядзіць на партрэт. Бярэ фотакартку і параўноўвае. Потым сядае на падлогу, скрыжаваўшы ногі.

В а р в о л ь (*сцішана*). "Адзінотаю гнаны спрадвечна, да яе я вярнуся нанова..."(*гледзячы на здымак*). Мама, ну хоць ты скажы, што не асуджаеш мяне. У-у-у... І ты супраць. Усе супраць мяне (адкідвае картку ўбок). І зноў я адзін.

Пэўны час Варволь маўчыць, закрыўшы твар рукамі, потым узнімаецца, падыходзіць да акна. Чуюцца гукі далёкай музыкі.

В а р в о л ь (*чытае як малітву*)

Мройны вецер, вецер лесу,
Ты развееш боль і страх,
Ператворыш смех у слёзы,
Свет — у сон, людзей — у прах.

І ніхто не разгадае
Сэнс жыцця і небыцця.
Паступова ўсё знікае,
Застаюся толькі я...

Усё азараецца чырвоным святлом і наступав цемра.

Варволь знікае ў акне. Пакой напаўняецца дымам. Ціха гучыць музыка.

КАНЕЦ

